ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 24 (2603)
ПЯТНІЦА
16
чэрвеня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## СОНЦА ЛУКОМЛЯ




Пяцьдзесят гадоў назад, у чэрвеньскія дні 1922 года, забілася сэрца Кашырскай ДРЭС — першай электрастанцыі, пабудаванай па ленінскім плане ГОЭЛРО, станцыі — равесніцы СССР. Збылася ленінская мара аб Расіі «электрычнай». Наша Радзіма стала магутнай індустрыяльнай дзяржавай, у нас будуюцца буйнейшыя ў свеце электрастанцыі. І сярод іх ярка гарыць электрычнае сонца Лукомля. Хутка яно засвеціцца яшчэ мацней — да 50-годдзя СССР будзе здадзены ў эксплуатацыю яшчэ адзін, пяты па ліку энергаблок магутнасцю 300 тысяч кілават.

Мантаж цепламеханічнага абсталявання на ДРЭС вядзе Лукомльскі ўчастак ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга трэста «Цэнтраэнергамантаж» Міністэрства энергетыкі і электрыфікацыі СССР. Сярод мантажнікаў, каго сёння на будоўлі называюць правафланговымі сацыялістычнага спаборніцтва, малдаванін Антон Максімавіч Лупу, фін Вейна Якаўлевіч Хюрэнен, казах Анатолій Курбанавіч Сейсебека, беларус Казімір Іванавіч Хрушчык, чуваш Уладзімір Ільіч Чарноў, рускі Уладзімір Сяргеевіч Асокін, украінец Мікалай Іванавіч Паляшчук. Іх вы бачыце на нашым здымку.

Фотанарыс пра Лукомльскую ДРЭС — на стар. 2—3.

## У ЦЭНТРАЛЬНЫМ КАМІТЭЦЕ КПСС

# АБ МЕРАХ ПА ЎЗМАЦНЕННІ БАРАЦЬБЫ СУПРАЦЬ П'ЯНСТВА І АЛКАГАЛІЗМУ

**У прынятай пастанове па гэтым пытанні ЦК КПСС абавязаў ЦК кампартый саюзных рэспублік, крайкомы, абкомы, гаркомы, райкомы партыі і пярвічныя партыйныя арганізацыі павесці рашучую і настойлівую барацьбу супраць п'янства і алкагалізму, распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па шырокім разгортванні маса-палітычнай і культурна-выхаваўчай работы ў калектывах і сярод насельніцтва па месцы пражывання, узмацненні проціалкагольнай прапаганды, павышэнню эфектыўнасці грамадскага і адміністрацыйнага ўздзеяння на асоб, якія злоўжываюць алкаголем.**

**Міністэрству аховы здароўя СССР, Камітэту па друку пры Савеце Міністраў СССР, Дзяржаўнаму камітэту Савета Міністраў СССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні, Камітэту па кінематаграфіі пры Савеце Міністраў СССР, Міністэрству культуры СССР, Камітэту па фізічнай культуры і спорце пры Савеце Міністраў СССР, Усесаюзнаму таварыству «Веды», рэдакцыям цэнтральных і мясцовых газет і часопісаў прапанавана больш актыўна выкарыстоўваць друк, радыё і тэлебачанне, кіно, відовішчныя мерапрыемствы, лекцыйную прапаганду, фізічную культуру і спорт з мэтай узмацнення проціалкагольнай прапаганды, растлумачэння велізарнай шкоды, якую наносіць п'янства здароўю людзей, выхаванню дзяцей і падлеткаў, усяму савецкаму грамадству.**

**Міністэрству аховы здароўя СССР, Міністэрству асветы СССР, Акадэміі педагагічных навук СССР, Дзяржаўнаму камітэту Савета Міністраў СССР па прафесійна-тэхнічнай адукацыі разам з ВЦСПС і ЦК ВЛКСМ даручана распрацаваць прапановы па сістэме проціалкагольнай прапаганды і выхаванні навучэнскай і працуючай моладзі і забяспечыць іх ажыццяўленне.**

**ЦК КПСС абавязаў выканкомы мясцовых Саветаў дэпутатаў працоўных разам з прафсаюзнымі, камсамольскімі, фізкультурнымі і іншымі грамадскімі арганізацыямі, кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўстаноў прыняць меры да паляпшэння арганізацыі культурнага вольнага часу працоўных у выхадныя і святочныя дні.**

**З гэтай мэтай распрацаваць і ажыццявіць мерапрыемствы па расшырэнні сеткі загарадных баз адпачынку працоўных, выкарыстоўваючы для гэтага, у прыватнасці, памяшканні піянерскіх лагераў у вольны ад абслугоўвання дзяцей час; забяспечыць стварэнне ў загарадных зонах адпачынку дадатковай колькасці лыжных баз, каткоў, павільёнаў і пляцовак для дэманстрацыі кінафільмаў, чытальняў, лодачных станцый, пунктаў пракату спартыўнага, культурна-бытавога інвентару і турыстычнага рыштунку; прыняць меры да расшырэння колькасці спартыўных пляцовак, тэнісных кортаў, каткоў і да т. п. у калгасах і саўгасах, у жылых кварталах гарадоў і пасёлкаў.**

**Прапанавана Міністэрству культуры СССР, Камітэту па кінематаграфіі пры Савеце Міністраў СССР арганізаваць у кінатэатрах, у вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах, санаторыях, дамах адпачынку, пансіянатах, парках і на адкрытых пляцоўках бясплатную дэманстрацыю навукова-папулярных і дакументальных кінафільмаў, якія раскрываюць шкоду п'янства і алкагалізму.**

*З ПЛЕНУМА ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА МАСТАКОЎ БЕЛАРУСІ*

# КРЫТЫКА

НАДЗЁННЫМ праблемам беларускай мастацтвазнаўчай крытыкі, яе задачам быў прысвечан пленум праўлення Саюза мастакоў БССР, які адбыўся 6 чэрвеня.

З дакладам «Пастанова ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы» і задачы Саюза мастакоў БССР» выступіў старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР В. Грамыка.

— Усё пазнаецца ў параўнанні,— сказаў дакладчык,— таму, відаць, сёння дарэчы прыгадаць тыя недалёкія гады, калі крытыкаў і мастацтвазнаўцаў у Беларусі можна было літаральна пералічыць па пальцах. У той час для абмеркавання нашых выставак, асвятлення нашага творчага працэсу, напісання кніг па гісторыі беларускага мастацтва мы вымушаны былі запрашаць спецыялістаў з Масквы і іншых гарадоў нашай краіны.

Сёння беларускія крытыкі, гісторыкі і тэарэтыкі мастацтва прадстаўляюць нашу рэспубліку на ўсесаюзных і міжнародных мастацтвазнаўчых форумах. На працягу толькі некалькіх год выйшлі ў свет такія сур'ёзныя працы беларускіх мастацтвазнаўцаў, як кніга па марксісцка-ленінскай эстэтыцы «Логіка прыгажосці» М. Крукоўскага, «Выяўленчае мастацтва Беларусі дакастрычніцкага перыяду» М. Кацара, «Манументальны летапіс эпохі» І. Ялатамцавай, творча-біяграфічныя нарысы пра мастакоў М. Філіповіча (аўтар В. Шматаў), К. Касмачова (М. Ганчароў), манаграфія Л. Дробава пра беларускіх мастакоў дакастрычніцкага перыяду.

Беларускія мастацтвазнаўцы і крытыкі супрацоўнічаюць не толькі з беларускімі выдавецтвамі, яны рыхтуюць кнігі для выдавецтваў Масквы і Ленінграда, актыўна супрацоўнічаюць у часопісах «Искусство», «Творчество», «Декоративное искусство СССР», друкуюць свае артыкулы ў рэспубліканскіх газетах і часопісах, актыўна ўдзельнічаюць у складанні БелСЭ, выконваюць вялікую работу па сістэматызацыі фондаў Беларускага дзяржаўнага мастацкага музея, складанні каталогаў, вядуць актыўную педагагічную і прапагандысцкую дзейнасць.

Асабліва трэба адзначыць вялікую, вельмі патрэбную працу, якую выконваюць супрацоўнікі сектара звода помнікаў АН БССР па выяўленні і класіфікацыі шматлікіх помнікаў высокай духоўнай культуры беларускага народа.

— Як вядома,— адзначыў далей В. Грамыка,— аналіз нашага творчага працэсу робіць друк. Нас, мастакоў, не заўсёды задавальняе ўзровень крытычных матэрыялаў па мастацтве.

В. Грамыка падрабязна і грунтоўна гаварыў аб неабходнасці пры крытычным аналізе твораў абапірацца на строга навуковую метадалогію, не дапускаць суб'ектывізму, «густаўшчыны». Ён казаў, што крытык павінен валодаць глыбокімі ведамі ў галіне «суседніх» мастацтваў, бо сёння ўжо немагчыма разглядаць беларускае выяўленчае мастацтва ў адрыве ад літаратуры, музыкі, архітэктуры, ў адрыве ад тых працэсаў, якія адбываюцца ў сусветнай і нашай, сацыялістычнай, культуры.

— Крытыка вострая, але слушная — заўсёды дапамагае мастаку разабрацца ў сабе, у сваіх памылках. Не трэба забывацца, што адаптацыя да сваіх твораў з'ява ўласцівая людзям усіх узростаў і прафесій. Уласцівая яна і мастакам. Мы часта прызвычайваемся да сваіх работ, не заўважаем іх слабых бакоў і таму хваравіта ўспрымаем любую крытыку ў свой адрас, лічачы, што крытык, які сказаў нам не вельмі прыемныя словы,— дрэнны крытык. Пры гэтым забываемся на тое, што самагіпноз стрымлівае творчы рост мастака. Якім бы жорсткім ні быў прысуд крытыка, калі ён справядлівы па сутнасці і добразычлівы па форме — ён будзе толькі на карысць творцы.

Але якія траўмы, здараецца, наносяць мастаку, калі яго творы ацэньваюць з пункту гледжання асабістых густаў. Як доўга, у пакутах выношваецца задума твора, колькі душэўных сіл траціцца на тое, каб наблізіць сваё тварэнне да задумы, і як крыўдна бывае, калі крытык, нават не паспрабаваўшы разабрацца ў сутнасці

## СПАБОРНІЧАЮЦЬ МАЛАДЫЯ

Учора сталі вядомыя вынікі першага тура Міжрэспубліканскага конкурсу маладых выканаўцаў, які праходзіць у залах Вільнюскай кансерваторыі. Латвія, Літва, Эстонія, Беларусь і Малдавія прыслалі сюды 96 маладых музыкантаў. Ад нашай рэспублікі ў спаборніцтве прымаюць удзел 18 чалавек: скрыпачы, віяланчэлісты, піяністы, спевакі.

Паспяхова закончылі першы тур і дапушчаны на другі студэнты Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі: Т. Працько (віяланчэль); В. Бадзьяраў, Ю. Ільяшоў, Г. Фукс, Ш. Гернштэйн (скрыпка); І. Алоўнікаў, Б. Спектар, А. Кузьмін, М. Мендзялеўская (фартэпіяна); Н. Казлова, Я. Пятроў, В. Раговіч, Н. Маісеенка (вакал).

Наперадзе яшчэ два туры. 26 чэрвеня журы конкурсу, у якое ўваходзіць 8 прадстаўнікоў ад Беларусі, падвядзе канчатковыя вынікі конкурсу і назаве яго пераможцаў.

## УДЗЕЛЬНІЧАЙЦЕ Ў КОНКУРСАХ

*Міністэрства абароны СССР з мэтай заахвочвання аўтараў, якія пішуць творы на героіка-патрыятычную тэму, устанавіла тры літаратурныя прэміі. Яны будуць прысуджацца раз у два гады ў Дзень Перамогі—9 мая.*

*Прэміямі будуць адзначацца лепшыя творы (проза, паэзія), што раскрываюць подзвігі савецкіх людзей пры абароне сацыялістычнай Радзімы, сучаснае жыццё савецкіх Узброеных Сіл, пераемнасць слаўных рэвалюцыйных і баявых традыцый нашага народа, якія ўпершыню выдаюцца Ваенным выдавецтвам Міністэрства абароны СССР. Перавага будзе аддавацца кнігам аб сучасным жыцці Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту.*

*Аўтарам твораў, удастоеных прэміі, будуць уручаны нагрудныя значкі і дыпломы. Устаноўлены тры прэміі: першая—дзве тысячы руб., другая—1 500 і трэцяя—тысячу рублёў.*

●

*Другі літаратурны конкурс на лепшыя аповесць, апавяданне, нарыс, песню, вершы аб'явіла рэдакцыя часопіса ўнутраных войск Міністэрства унутраных спраў СССР «На боевом посту».*

*У конкурсных творах павінны быць адлюстраваны баявая служба, вучоба, быт воінаў унутраных войск, іх мужнасць і гераізм пры выкананні воінскага абавязку, высокія маральна-палітычныя і баявыя якасці салдат, сержантаў і афіцэраў, выхаваных на традыцыях дружбы народаў СССР і пралетарскага інтэрнацыяналізму, слаўныя баявыя традыцыі войск ВЧК — АДПУ—НКУС і Міністэрства ўнутраных спраў, ратныя подзвігі дзяржынцаў ў гады грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў.*

*Для пераможцаў конкурсу ўстаноўлены прэміі. За АПОВЕСЦЬ: першая прэмія—500 руб., другая—300 і трэцяя—200 руб.; за АПАВЯДАННЕ: першая прэмія 300 руб., другая—200 і трэцяя— 100 руб.; за НАРЫС: першая прэмія—200 руб., другая—150 і трэцяя — 100 руб.; за ПЕСНЮ: першая прэмія—200 руб., другая—150 і трэцяя—100 руб. (прэміруюцца музыка і тэкст разам); за ВЕРШЫ: першая прэмія—150 руб., другая—100 і трэцяя—50 руб.*

*Устаноўлены таксама чатыры заахвочвальныя прэміі па 50 рублёў кожная.*

*Конкурс працягнецца да 30 снежня 1972 г.*

## XVII МІЖНАРОДНЫ КНІЖНЫ КІРМАШ

ПІСЬМО З ПОЛЬШЧЫ

На XVII Міжнародным кніжным кірмашы, які праходзіў з 14 па 21 мая ў Палацы культуры і навукі ў Варшаве, 257 выдавецтваў з усіх кантынентаў зямнога шара прапанавалі звыш 80 тысяч выданняў.

У гэтым моры выдавецкай прадукцыі сучаснага свету асабліва багата была прадстаўлена Краіна Саветаў. Уся экспазіцыя яе выстаўкі на Міжнародным кірмашы ў Варшаве была падпарадкавана адзінаму плану—паказаць росквіт навукі і тэхнікі, культуры і мастацтва кожнай з саюзных рэспублік за 50 год СССР. Каля 3 тысяч выданняў па самай разнастайнай тэматыцы на рускай мове, мовах народаў СССР і некаторых зарубежных змог убачыць наведвальнік кніжнага кірмашу. Польскаму наведвальніку кірмашу цікава было даведацца, што на працягу апошніх 25 год у СССР выдадзена звыш 1600 кніг польскіх аўтараў агульным тыражом 59 мільёнаў экземпляраў.

Вельмі эфектна была прадстаўлена на кірмашы выдавецкая прадукцыя Беларускай ССР. Кнігі беларускіх выдавецтваў вызначаюцца каларытнасцю афармлення і высокай паліграфічнай тэхнікай. Цікавасцю карыстаюцца на выстаўцы кнігі «Беларусь Савецкая», «Гісторыя Мінска», «450 год беларускага кнігадрукавання», «Беларускі фальклор», выданні твораў беларускіх пісьменнікаў, дзіцячая і маладзёжная літаратура.

**Мікола ГАЙДУК.**
Беласток.

ВЫ ПАМЯТАЕЦЕ словы са старой песні — «Загудели, заиграли провода. Мы такого не видали никогда»? Час змяніўся, і зараз не драўляныя слупы закрочылі «от избы до избы», а жалезабетонныя і металічныя апоры трымаюць шлях на сотні і тысячы кіламетраў.

У далёкім 1930 годзе першынец энергетыкі рэспублікі — БелДРЭС меў магутнасць 32 тысячы кілават. А цяпер адзін толькі энергаблок Лукомльскай электрастанцыі выпрацоўвае амаль у дзесяць разоў больш электрычнай энергіі, а магутнасць чатырох энергаблокаў першай чаргі станцыі складае 1 200 тысяч кілават. Гэта лічба выглядае яшчэ больш важкай у параўнанні з магутнасцю ўсіх электрастанцый Беларусі ў 1940 годзе, якая складала тады 128 тысяч кілават.

Хуткімі тэмпамі расце індустрыяльная Беларусь, гарадам і сёлам трэба ўсё больш электрычнай энергіі. К канцу пяцігодкі Лукомльская ДРЭС дасягне праектнай магутнасці — 2400 тысяч кілават. Будаваць гэту сапраўды гіганцкую станцыю дапамагае ўся краіна. Ленінградскі двойчы ордэна Леніна і ордэна Кастрычніцкай Рэвалюцыі металічны завод імя XXII з'езда КПСС пастаўляе сюды магутныя турбіны, электрамашынабудаўнічае аб'яднанне «Электрасіла» з горада на Няве шле генератары, таганрогскі завод «Чырвоны кацельшчык» прысылае праматочныя катлы прадукцыйнасцю 950 тон пары ў гадзіну, станцыйныя трубаправоды высокага і звышвысокага ціску прыбываюць з падольскага ордэна Леніна машынабудаўнічага завода імя Г. К. Арджанікідзе. Абсталяванне для будучай станцыі шлюць таксама заводы Масквы і Ерэвана, Свярдлоўска і Казані, Баку і Саранска, Львова і Запарожжа, Латвіі, Беларусі.

Літаральна кожны дзень жыццё будоўлі раскрывае прыклады братняй дружбы і супрацоўніцтва рэспублік-сясцёр. Пад кіраўніцтвам генеральнага падрадчыка — рыжскага аддзялення інстытута «Цеплаэлектрапраект» — у распрацоўцы праектнага задання прынялі ўдзел беларускія і ўкраінскія спецыялісты. У цэхах электрастанцыі можна сустрэць вучоных з многіх навуковых устаноў, якія вядуць тут даследаванні па пытаннях надзейнасці і эканамічнасці работы абсталявання, даюць карысныя рэкамендацыі.

Беларускія энергетыкі рэгулярна абменьваюцца тэхніка-эканамічнай інфармацыяй з Канакоўскай, Кастрамской (РСФСР), Троіцкай (Украіна), Кармаaccount (Башкірская АССР), Літоўскай ДРЭС і іншымі блочнымі электрастанцыямі. Гэта актыўная форма ўзаемаўзбагачэння дазваляе пастаянна ўдасканальваць вытворчы працэс, своечасова ліквідаваць «вузкія месцы». Вывучыўшы вопыт канакоўцаў, на Лукомльскай ДРЭС укаранілі метад эксплуатацыйных хімічных ачыстак паверхняў нагрэву котлаагрэга-

# ЗБРОЯ ПАРТЫЙНАЯ

гэтага твора, выносіць безапеляцыйны прысуд. Такі «метад даследавання» глыбока чужы прынцыпам марксісцка-ленінскай метадалогіі. Ён не толькі крыўдзіць мастака, але наносіць непапраўныя страты і самому крытыку, яго аўтарытэту.

Адной з найбольш важных задач нашага творчага саюза з'яўляецца стварэнне такога маральнага асяроддзя, у якім тэорыя і практыка будуць знаходзіцца ў суладдзі, а мастакі і крытыкі будуць разумець, што ўсе яны працуюць над стварэннем своеасаблівага летапісу нашай эпохі і таму павінны прыкласці ўсе намаганні для таго, каб гэты летапіс быў найбольш праўдзівы, дакладны, поўны.

— Але мы не павінны закрываць вочы і на тое,— сказаў далей дакладчык,— што ў нас існуе цэлы шэраг аб'ектыўных прычын, якія стрымліваюць развіццё нашай крытычнай думкі.

Адна з іх — востры недахоп прафесійна-кваліфікаваных мастацтвазнаўчых кадраў. Нашы інстытуты не рыхтуюць спецыялістаў мастацтвазнаўцаў. У выніку нашыя мастацтвазнаўчыя сілы фарміруюцца з мастакоў, журналістаў, гісторыкаў, філолагаў.

Пасады мастацтвазнаўцаў ва многіх установах займаюць людзі не падрыхтаваныя, якія не могуць паўнацэнна выконваць свае функцыі. Хіба не паказальна, напрыклад, што нават у беларускім філіяле Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута тэхнічнай эстэтыкі да гэтай пары няма ніводнага спецыяліста па эстэтыцы і па тэорыі мастацтва.

Нават кафедра тэорыі і гісторыі мастацтва Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута не мае патрэбнай колькасці мастацтвазнаўцаў са спецыяльнай падрыхтоўкай. Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, сектар зводу помнікаў, мастацкая рэдакцыя БелСЭ, выдавецтвы, рэдакцыі газет, часопісаў, радыё, тэлебачанне, прадпрыемствы мясцовай і лёгкай прамысловасці, дамы народнай творчасці не могуць абысціся без спецыялістаў мастацтвазнаўцаў. Думаць пра падрыхтоўку такіх спецыялістаў мы павінны ўжо сёння.

Мастацтвазнаўцы, а не выпадковыя людзі павінны займацца эстэтычным выхаваннем у школе, у сярэдніх і вышэйшых навучальных установах, павінны ўдзельнічаць у фарміраванні мастацкага аблічча нашага горада, уплываць на эстэтычныя якасці прамысловых вырабаў.

Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па друку павінен больш дбаць пра тое, каб забяспечыць патрэбы ў мастацтвазнаўчай і крытычнай літаратуры.

— Матэрыялы XXIV з'езда КПСС, пастанова ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы»,—сказаў у заключэнне дакладчык, — даюць творчым саюзам шырокую праграму дзеяння, выканаць якую можна толькі пры планамернай, мэтанакіраванай рабоце ўсіх нашых творчых цэхаў.

Аб узроўні беларускага мастацтвазнаўства і крытыкі, аб яе культуры, аб маральным абавязку крытыка быць прынцыповым, добразычлівым, патрабавальным, як да другіх, так і да сябе, вялі зацікаўленую, шчырую гаворку, выступіўшыя ў спрэчках мастацтвазнаўцы У. Бойка, В. Шматаў, Л. Дробаў, І. Ялатамцава.

Пра выдавецкія планы, пра пашырэнне выпуску мастацтвазнаўчай літаратуры расказаў галоўны мастак Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку М. Ганчароў.

— Аўтарытэт крытыка,— сказаў мастацтвазнаўца Б. Крэпак,— ніколі не будзе высокім, пакуль крытык не валодае аналізам. Вельмі часта мы ў сваіх артыкулах, якія друкуем у рэспубліканскай прэсе, акцэнтуем увагу на раскрыцці намераў аўтара, апісваем твор, а не аналізуем яго сур'ёзна і глыбока. Гэта прыадчыняе дзверы для непатрабавальнасці, аморфнасці, як у крытыцы, так і ў мастацтве.

Сёння самым небяспечным ворагам мастацтва з'яўляецца шэрасць. І мы, крытыкі, павінны прыкласці ўсе намаганні, каб шэрых, нецікавых твораў у нашым мастацтве было як мага менш.

Пра неабходнасць выконваць прынятыя пленумамі Саюза мастакоў пастановы гаварыў мастацтвазнаўца А. Белавусаў.

— Роўна год таму,— сказаў ён,— мы ў гэтай жа зале праводзілі пленум праўлення Саюза мастакоў Беларусі, прысвечаны праблемам крытыкі. Роўна год назад мы прынялі вельмі слушныя рашэнні і вось сёння, відаць, будзем прымаць іх яшчэ раз. Чаму? Ды таму, што за год, які мінуў з таго пленума, не было зроблена ніякіх практычных захадаў для таго, каб выканаць хоць адзін з пунктаў яго рэзалюцыі...

— Я думаю,— сказаў старшыня секцыі мастацтвазнаўства і крытыкі Саюза мастакоў БССР А. Сурскі,— што праўленне Саюза мастакоў павінна не толькі накіроўваць нашу работу, але рашаць і больш складаныя «стратэгічныя» праблемы развіцця нашага мастацтвазнаўства і крытыкі.

Падсумаваў выступленні загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. Марцалеў.

— Спрыяючы развіццю крытычнай думкі,— сказаў ён,— партыя бачыць у гэтым шляхі павышэння ўзроўню нашага выяўленчага мастацтва. Партыя разглядае крытыку не як самамэту, а як сродак для дасягнення нашым выяўленчым мастацтвам яшчэ больш буйных поспехаў.

С. Марцалеў падкрэсліў, што толькі пры абсалютным узаемадзеянні ўсіх атрадаў мастацтвазнаўчай крытыкі магчыма дасягнуць сапраўднага творчага поспеху, узнікнення яшчэ больш значных, яшчэ больш цікавых твораў жывапісу, графікі, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.



Машыніст Барыс Нявераў трымае руку на пульсе станцыі.



Пасля працоўнага дня цягне да сябе прахалода Лукомльскага возера.

*Пяцігодка, год другі*

# СОНЦА ЛУКОМЛЯ

таў, што дало магчымасць падоўжыць тэрміны работы гэтага абсталявання паміж капітальнымі рамонтамі. І такіх прыкладаў многа.

Дыханне блізкага свята адчуваецца ва ўсіх сферах вытворчага і грамадскага жыцця Новалукомля — горада маладосці, горада светлых перспектыў. Зусім нядаўна гараджане ўрачыста сустракалі ўдзельнікаў мота- і велаагітпрабегаў, якія прайшлі па дарогах Расіі,Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Беларусі. Гэтыя прабегі і паходы спартсмены і турысты Новалукомля прысвяцілі паўвекавому юбілею Краіны Саветаў. Клуб турыстаў запланаваў аўтамотапрабегі ў Малдавію, рэспублікі Закаўказзя і Сярэдняй Азіі.

Моладзь Новалукомля моцна дружыць з кнігай. Больш як 1 300 чытачоў карыстаюцца паслугамі гарадской бібліятэкі. Маленькі калектыў гэтай культасветустановы, якую ўзначальвае Валянціна Максімаўна Лузанава, праводзіць тэматычныя выстаўкі і вечары, гутаркі і агляды. З дапамогай чытачоў тут афармляюцца альбомы, рыхтуюцца канферэнцыі. Літаратурныя гульні-падарожжы «Краіна, у якой мы жывём», конкурсы на лепшы чытальніцкі дзённік і на лепшы малюнак да прачытанай кнігі прыцягваюць многа юных кнігалюбаў.

Характэрнай рысай гарадскога пейзажа сталі вежавыя краны.

— За гады пяцігодкі,— расказвае старшыня гарвыканкома Тамара Андрэеўна Піскунова,— будаўнікі здадуць 80 тысяч квадратных метраў жылля. З'явяцца ў нас Палац культуры з залай на 700 месц і бібліятэкай, музычная школа на 250 вучнёўскіх месц, яшчэ адна сярэдняя школа на 1 104 месцы, два дзіцячыя камбінаты, пашырыцца бальнічны гарадок. На беразе возера вырастуць карпусы піянерскага лагера і прафілакторыя для рабочых станцыі. Расчыняць дзверы гасцініца «Інтурыст», рэстаран «Лукамор'е», новыя магазіны, кафэ і кафетэрыі. Рыхтуецца падарунак і для спартсменаў — стадыён, цір, басейн. Плануецца адкрыць у горадзе філіял энергетычнага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута. Ужо зараз вядзецца збудаванне ў горадзе камбіната аб'ёмнага домабудаўніцтва, справіў наваселле малочны завод. Пяцігодка горада напружаная, але мы яе абавязкова выканаем.

...Магутная электрычная рака па высокавольтавых лініях расцякаецца ад берагоў Лукомльскага возера ва ўсе канцы рэспублікі і за яе межы. У люстраной роўнядзі, адбіваюцца дзве чвэрцькіламетравыя трубы і велізарны, пяцідзесяціметравай вышыні, корпус фабрыкі электрычнасці. А побач ідзе мантаж пятага энергаблока. Па-ўдарнаму працуюць будаўнікі. Яны спаборнічаюць за паспяховае пераўтварэнне ў жыццё рашэнняў XXIV з'езда КПСС,які запісаў у Дырэктывах па дзевятым пяцігадовым плане «...увесці новыя магутнасці на Лукомльскай ДРЭС».



Уладзімір Сяргеевіч і Клаўдзія Фёдараўна Някрасавы будавалі электрастанцыі ў Новакуйбышаўску, Омску, Яраслаўлі, Маскве, а з 1968 года працуюць у Новалукомлі. Абодва яны ўжо тут ўзнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга.

У гэтыя дні калектыў будаўнікоў і эксплуатацыйнікаў флагмана беларускай энергетыкі рыхтуе дастойную сустрэчу 50-годдзю ўтварэння СССР. Гэта вялікае свята хочуць парадаваць новымі вытворчымі дасягненнямі прадстаўнікі многіх братніх народаў нашай краіны, якія разам дружна працуюць на ўзвядзенні энергагіганта.

Ул. ФРЭЙДЗІН.
Фота аўтара.

# КАЛІ З ДУШОЙ...

«Беларуская кадрыля». У саліхвацкім танцы ўвішна носяцца хлопцы і дзяўчаты, апранутыя ў нацыянальныя беларускія касцюмы. Ідуць рэпетыцыі танцавальнага калектыву мастацкай самадзейнасці Кармянскага раённага аб'яднання «Сельгастэхніка».

Зусім нядаўна быў аб'яўлены набор у калектыў мастацкай самадзейнасці райаб'яднання. Першымі падалі голас скептыкі. Маўляў, дзе тут знайсці спевакоў і танцораў? Аднак у самадзейнасць пацягнуліся і маладыя, і пажылыя. Міхаіл Захаравіч Крамзукоў і яго сын Віктар (абодва працуюць слесарамі), шафёр Аляксандр Назаранка, інжынер-будаўнік Анатоль Нарчук і яго жонка Валянціна, сакратар-машыністка Вера Крылова, інжынер-нарміроўшчык Міхаіл Багдановіч і іншыя. Неўзабаве калектыў ужо налічваў 30 удзельнікаў. Быў створаны хор. Нямала здольных людзей знайшлося ў «Сельгастэхніцы». Выдатна выконвае на домры рускія народныя песні Аляксандр Умноў, салістам паказаў сябе рабочы Леанід Стасянкоў. Электрамантажнік Юрый Скараход і Вера Крылова з поспехам дэкламуюць.

І вось стварылі танцавальную групу і мужчынскі вакальны ансамбль. Неўзабаве ў выкананні ансамбля на сцэне прагучалі песні «Марш рамонтнікаў», «Ішоў салдат», «А жаніцца трэба знаць...» Вакальны ансамбль хутка заваяваў павагу гледачоў. Самадзейныя артысты выступілі з канцэртамі на сцэнах сельскіх клубаў Кармяншчыны і ў раённым доме культуры. Творчым экзаменам для многіх удзельнікаў самадзейнасці паслужыла выступленне па Гомельскім абласным тэлебачанні. Удзельнікі самадзейнасці шукаюць цікавыя формы работы. Напрыклад, у дадатак да музычнага фельетона «Лада» Юрый Скараход і Вера Крылова рыхтуюць новыя сатырычныя куплеты, прысвечаныя вясковаму жыццю. Будзе дадзены бой п'яніцам і абібокам.

Рабочы Леанід Стасянкоў працуе над новымі песнямі. Новую праграму рыхтуюць мужчынскі вакальны ансамбль і танцавальны калектыў.

Калектыў мастацкай самадзейнасці раённага аб'яднання «Сельгастэхніка» вырашыў пабываць ва ўсіх калгасах і саўгасах Кармяншчыны з канцэртнымі праграмамі.

Н. ЦЫЛАВА,
В. УШАЎ-ЛАНДЫШ.




# ГОД ВЯЛІКІХ ГАСТРОЛЯЎ



**Г. ЗАГАРОДНІ,**
дырэктар Беларускай дзяржаўнай філармоніі

БЕЛАРУСКАЯ дзяржаўная філармонія з году ў год, ад сезона да сезона, пашырае аб'ём канцэртнай работы, імкнецца пастаянна паляпшаць якасць сваёй работы. Дастаткова сказаць, што ў мінулым годзе нашы творчыя калектывы далі амаль дзевяць тысяч канцэртаў, абслужыўшы звыш двух з палавінай мільёнаў гледачоў. За гэтымі сухімі, на першы погляд, лічбамі крыецца вялікая работа артыстаў, рэжысёраў, музыкантаў — усіх работнікаў філармоніі.

У пачатку сёлетняга года ўвесь калектыў уключыўся ва ўсесаюзнае сацыялістычнае спаборніцтва тэатральна-відовішчных прадпрыемстваў за дастойную сустрэчу 50-годдзя ўтварэння СССР і прыняў на сябе павышаныя абавязацельствы. Арганізацыя спаборніцтва паміж асобнымі нашымі цэхамі, бюро, эстраднымі групамі за стварэнне яркіх канцэртных праграм і нумароў высокага ідэйна-мастацкага гучання, павышэнне выканаўчага майстэрства, выкананне вытворча-фінансавых планаў, асабліва па абслугоўванні сяла і новабудоўляў, несумненна з'явіцца значным стымулам далейшага ўздыму мастацка-творчай работы філармоніі ў цэлым.

У святле канкрэтных указанняў і рэкамендацый, выкладзеных у Пастанове ЦК КПСС «Аб падрыхтоўцы да 50-годдзя ўтварэння СССР», у філармоніі распрацаваны і зацверджаны план асноўных мерапрыемстваў на юбілейны год. Перад намі стаіць задача — усімі сродкамі прафесійнага мастацтва растлумачваць народу перамогу ленінскай нацыянальнай палітыкі, усямерна развіваць культурныя сувязі з братнімі рэспублікамі, актыўна абменьвацца багаццямі мастацкай культуры.

Трэба адзначыць, што ў апошні час папулярызацыя лепшых дасягненняў шматнацыянальнага савецкага мастацтва набывае ў нашай рэспубліцы ўсё больш рознабаковы і мэтанакіраваны характар. Я не кажу пра савецкую песню, якая гучыць літаральна на ўсіх канцэртах у выкананні камерных і эстрадных спевакоў. Значна шырэй і часцей пачалі ў нас прапагандавацца таксама творы буйных жанраў і форм.

Па прыкладзе мінулага года сёлета з 6 па 23 красавіка ў канцэртнай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі быў праведзены цыкл сімфанічных прэм'ер музыкі народаў СССР з удзелам кампазітараў, відных дырыжораў і выканаўцаў краіны, які з'явіўся значнай падзеяй у культурным жыцці сталіцы Беларусі. Асабліва з вялікім поспехам прайшоў аўтарскі канцэрт народнага артыста СССР, лаўрэата Ленінскай і Дзяржаўнай прэміі Арама Хачатурана.

У дні сімфанічных прэм'ер у Мінску ўпершыню прагучалі новыя буйныя творы кампазітараў Расійскай Федэрацыі, Украіны, Літвы, Латвіі, рэспублік Сярэдняй Азіі, а таксама беларускіх аўтараў. Сярод іх 3-я сімфонія А. Штагарэнкі, трагічная паэма для аркестра, чытальніка і хору «Атэла» Ул. Юроўскага, 14-я сімфонія Я. Іванова, сімфанічная паэма «Залаты кішлак» Ш. Сайфутдзінава, сімфонія Э. Махмудава, сюіта з музыкі да кінафільма «Снягурачка» Я. Глебава, «Песні Сапфо» А. Янчанкі.

Гэты цыкл канцэртаў-прэм'ер, падрыхтаваны і праведзены на высокім арганізацыйна-мастацкім узроўні калектывам Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра БССР пад кіраўніцтвам дырыжораў Ю. Яфімава (Мінск), В. Гнедыша (Кіеў), З. Хакназарава (Ташкент) і М. Павермана (Свярдлоўск), садзейнічаў яшчэ больш шырокай прапагандзе сучаснай савецкай музыкі сярод слухачоў.

Рыхтуючыся дастойна сустрэць вялікае ўсенароднае свята, усе нашы творчыя калектывы, канцэртныя брыгады і салісты працуюць зараз над новымі тэматычнымі праграмамі, якія ўключаюць у сябе музычны і літаратурны матэрыял, прысвечаны У. І. Леніну, партыі, дружбе народаў Краіны Саветаў. У гэтых канцэртных праграмах і эстрадных прадстаўленнях асноўнае месца адводзіцца лепшым творам кампазітараў і паэтаў братніх рэспублік.

Цалкам абноўлены рэпертуар у шэрагу канцэртна-лекцыйных груп і эстрадных калектываў. «Мелодыі дружбы» — так названы песенна-эстрадны агляд з удзелам дыпламанта ўсесаюзнага конкурсу Нэлі Багуслаўскай. Новыя тэматычныя праграмы падрыхтавалі да юбілею Савецкага Саюза эстрадны калектыў «Беларускі сувенір», брыгада з удзелам лаўрэата ўсесаюзнага і міжнароднага конкурсаў заслужанага артыста БССР Віктара Вуячыча, лаўрэат усесаюзнага конкурсу вакальна-інстументальны ансамбль «Песняры», салісты С. Выдрына, Т. Ванецыян і інш.

Арыентацыя на арыгінальны сучасны рэпертуар, папаўненне яго высокімі ўзорамі савецкага, у тым ліку беларускага мастацтва з'яўляецца для выканаўцаў адным з рашаючых фактараў пры падрыхтоўцы да новых канцэртных выступленняў і верным залогам іх поспеху ў гледача. Наглядным пацвярджэннем служаць праведзеныя ў красавіку — маі гэтага года на Сахаліне дні савецкай песні з удзелам майстроў беларускай эстрады. Прысутнічаючы на адкрыцці гэтых дзён, я быў сведкам надзвычай шчырага прыёму, які аказалі працаўнікі г. Паўднёва-Сахалінска беларускім артыстам. І гэта невыпадкова. Нашы эстрадныя калектывы — «Беларускі сувенір» і брыгада пры ўдзеле заслужанага артыста БССР Э. Міцуля, кампазітараў Ю. Семянякі, І. Лучанка, саліста Беларускага тэлебачання і радыё заслужанага артыста БССР Ю. Смірнова, саліста тэатра оперы і балета БССР лаўрэата міжнароднага конкурсу А. Рудкоўскага, рыхтуючыся да творчай паездкі на Сахалін, падрыхтавалі новы, цікавы канцэртны рэпертуар. Музычны пралог «Мы славім Леніна», песні «Ён нарадзіўся вясной», «Ад Сахаліна да Брэста» І. Лучанка, «Белая Русь» і «Адна ў нас Расія» Ю. Семянякі, «Абеліскі» Д. Смольскага, патрыятычныя вершаваныя маналогі «Саюз сэрцаў» С. Грахоўскага, «Ода Братэрству» і «Беларусь — Сахалін» П. Харкова — гэтыя і рад іншых твораў надалі канцэртным праграмам глыбокі ідэйны сэнс, вялікую грамадзянскую накіраванасць і ярка выяўлены нацыянальны каларыт. За час знаходжання нашых артыстаў на далёкім востраве, дзе было дадзена 94 канцэрты, у тым ліку тры шэфскія, мясцовыя жыхары даведаліся аб гераічным мінулым і веліччы сённяшніх працоўных будняў Савецкай Беларусі і высока ацанілі здабыткі самабытнага беларускага мастацтва.

Міжрэспубліканскія фестывалі, дні абмену саюзных рэспублік мастацкімі каштоўнасцямі, якія ўвайшлі ў практыку штодзённага жыцця, сталі дзейсным сродкам узаемаўзбагачэння культур братніх народаў. Асабліва значнае развіццё формы ўзаемнага культурнага абмену набываюць сёлета. Гэта відаць хоць бы на прыкладзе беларускіх творчых калектываў.

Нядаўна паспяхова закончыліся працяглыя гастролі Дзяржаўнага народнага аркестра БССР па рэспубліках Сярэдняй Азіі. А ў жніўні яго чакае новая канцэртная паездка на Далёкі Усход для ўдзелу ў Свяце мастацтваў народаў СССР, якое з 1 чэрвеня пачало ўрачыстае шэсце па краіне.

Мінскі камерны аркестр — першы сярод творчых калектываў Беларусі адправіўся гэтымі днямі са справаздачнымі канцэртамі ў сярэднеазіяцкія рэспублікі па плане Свята мастацтваў. Услед за гэтым філарманічным калектывам у іншыя братнія рэспублікі выедуць некаторыя нашы вядучыя эстрадныя брыгады. У прыватнасці, вакальна-інструментальнаму ансамблю «Песняры» і Віктару Вуячычу давядзецца ў ліпені выступаць у канцэртах фестывалю «Маскоўскае музычнае лета», прысвечанага 50-годдзю ўтварэння СССР.

Сёлетні юбілейны год для артыстаў — гэта год творчых справаздач, адказных гастрольных паездак, шматлікіх выступленняў перад самай шырокай аўдыторыяй. Выступленняў не толькі за межамі роднай рэспублікі ў рамках Свята мастацтваў, але і ў сябе дома, дзе ад выканаўцаў людзі чакаюць новых творчых адкрыццяў, новых сустрэч і знаёмстваў са светам прыгожага. А ў такіх выпадках выступаць на сцэне цяжэй, чым перад зусім незнаёмай публікай. Гэта добра разумее калектыў Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра БССР, які сёлета свае летнія гастролі праводзіць у абласцях нашай рэспублікі. Яго выступленні адбудуцца не толькі ў канцэртных залах, рабочых клубных памяшканнях, але і на адкрытых эстрадах гарадскіх паркаў Мінска, Магілёва, Віцебска, Гомеля, Брэста. Апрача выканання разнастайных сімфанічных пра-

## НА ГАСТРОЛЬНЫХ МАРШРУТАХ

*Летнія гастролі працягваюцца. Зараз на дарогах Міншчыны можна сустрэць аўтобусы з артыстамі Рэспубліканскага тэатра юнага гледача імя 50-годдзя Ленінскага камсамола Беларусі. І не адстае ад аўтобуса грузавая машына з дэкарацыямі і касцюмамі. Кузаў грузавіка пры неабходнасці становіцца сцэнай. Надвор'е стаіць цудоўнае, і часта спектаклі паказваюцца на ўлонні прыроды.*

— Увесь чэрвень і першую дэкаду ліпеня наш калектыў будзе абслугоўваць сельскіх гледачоў Міншчыны, — расказвае дырэктар тэатра А. Вольскі.—Зараз у нас працуюць тры творчыя брыгады. Адна паказвае спектакль «Над хвалямі Серабранкі» І. Козела ў калгасах Мядзельскага, Вілейскага і Валожынскага раёнаў. Маршруты другой брыгады пралеглі па калгасах Нясвіжскага, Стаўбцоўскага, Клецкага раёнаў, трэцяй—у Слуцкім, Любанскім і іншых раёнах. Абедзве брыгады паказваюць калгаснікам спектакль «Мядовы месяц» К. Губарэвіча.

Сёлетні тэатральны сезон завершым прэм'ерай па п'есе А. Махнача «Гаўрошы Брэсцкай крэпасці». Гэты спектакль прысвячаем 50-годдзю піянерскай арганізацыі.

Да залатога юбілею СССР рыхтуем сучасную казку па п'есе літоўскай пісьменніцы Віялеты Пальчынскайтэ «Я спяшаюся за летам». Ставіць спектакль запрошаны дзеячы мастацтва з Літвы—рэжысёр Аурэлія Рагаўскайтэ, мастак Вікторыя Гатавінайтэ, кампазітар Леонас Павялайціс, балетмайстар Чэславас Жабраўскас.

*У Магілёве госціць Закарпацкі абласны ўкраінскі музычна-драматычны тэатр. Сёлета ён выступае ў Летнім тэатры парку імя М. Горкага, глядзельная зала якога на 900 месцаў заўсёды перапоўненая.*

— У Беларусь мы прыязджаем не ўпершыню. Былі ў Гродне, Віцебску. І вось—другая сустрэча з працоўнымі горада на Дняпры,— гаворыць дырэктар тэатра В. Руснак. —У нашай гастрольнай афішы—«Дарогі, якія мы выбіраем» М. Зарудняга, «Платон Крэчат» А. Карнейчука, «Аднойчы ў навагоднюю ноч» Э. Брагінскага і Э. Разанава, «Шлюб з прыгодамі» В. Кансона, а з украінскай класікі — «Наталка-Палтаўка», «Сватанне на Ганчароўцы», «Маці-наймічка».

Наш калектыў уключыўся ў шматграннае культурнае жыццё вобласці. Акцёры тэатра ўдзельнічалі ў вясновых святах песні, што адбыліся ў старажытным Мсціслаўлі і ў Круглым. Вельмі ўсхвалявала сустрэча калектыву з хлебаробамі калгаса імя Леніна Чавускага раёна. Мы паказалі ім спектакль «Дарогі, якія мы выбіраем». Пасля адбылася таварыская гутарка. Мы расказалі калгаснікам аб сваім тэатры, якому нядаўна споўнілася 25 гадоў, а калгаснікі—пра зямлю, ураджай... Паказвалі спектаклі ў Быхаве, Шклове. Плануем сустрэчы на буйнейшых прадпрыемствах і будоўлях Магілёва.



## ПРЫНЯТЫ Ў САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**ЗВЕРАВА Надзея Канстанцінаўна.** Паэтэса. Нарадзілася ў 1935 годзе ў Кастраме. Член КПСС. Кастрамскі педагагічны інстытут імя М. Някрасава скончыла ў 1959 годзе. Старшы літаратурны супрацоўнік Магілёўскай раённай газеты «За камуністычную працу». Літаратурную працу пачала ў 1957 г. Выдадзен зборнік вершаў, «Добры дзень!» (1967).

**РАЗАНАЎ Алесь Сцяпанавіч.** Паэт. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў в. Сялец Брэсцкай вобласці. Член ВЛКСМ. Брэсцкі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. С. Пушкіна скончыў у 1970 годзе. Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Кругельскай СШ, служыў у Савецкай Арміі. Літаратурную працу пачаў у 1966 годзе. Зборнік паэзіі «Адраджэнне» выйшаў у 1970 годзе.

**РУДАЎ Веніямін Сямёнавіч.** Празаік. Нарадзіўся ў 1916 годзе ў в. Далінскае Адэскай вобласці. Член КПСС. Вышэйшую афіцэрскую школу пагранічных войск скончыў у 1946 годзе.




## СУСТРЭЧА З ПАЭТАМ

На ўскраіне вёскі Нізок прыгожай стужкай уецца Уса. Абапал Усы аксамітавым дыванам утульна разлегліся шырокія лугі, паплавы.

Нізок стаіць на ўзгорку. Здалёк відаць дамы, акружаныя садамі.

Наш аўтобус памаленьку рухаецца па зялёнай вуліцы. Потым прыпыняецца каля невялікай сялянскай хаты. Гэты невялікі дамок, што стаіць амаль пасярэдзіне вёскі, патанае ў зеляніне. Тут некалі нарадзіўся і жыў славуты беларускі паэт Паўлюк Трус.

З усіх куткоў Беларусі едуць у Нізок настаўнікі, студэнты, школьнікі, каб пакланіцца запаветным мясцінам.

Тут, у Нізку, Паўлюк Трус упершыню пачуў ад маці беларускія народныя казкі і песні, якія так моцна кранալі яго сваёй паэзіяй і прастатой. Тут Паўлюк вучыўся чытаць, пачаў пісаць вершы. У гэтых мясцінах, сярод маляўнічага Наднямоння, адчуў будучы паэт веліч і хараство прыроды, вучыўся разумець яе мову.

І вось мы, група рабочай моладзі Мінскага вучэбна-вытворчага прадпрыемства таварыства сляпых, сядзім пад дубам, пад якім так добра некалі думалася паэту.

Сястра паэта Вера Адамаўна расказвае, што Паўлюк цэлымі гадзінамі слухаў тут шэпт лістоты. А калі не выпадала яму прыехаць дадому, то прысылаў родным цёплыя лісты. «Мяне заўсёды цягне свой родны куток,—

# МАСКОЎСКІ МАЛЫ — У МІНСКУ

ТАК, ЯК У ГЭТЫЯ чэрвеньскія дні гавораць пра выступленні масквічоў на мінскай сцэне, звычайна гавораць пра міжнародныя хакейныя або футбольныя матчы ці пра конкурсы фігурыстаў на лёдзе. Тысячы гледачоў па-сапраўднаму ўсхваляваныя непасрэднай сустрэчай з майстрамі аднаго з лепшых тэатраў Расіі. І хоць кожны спектакль прыносіў у адных выпадках большае, у іншых меншае мастацкае адкрыццё, хоць мінчане па справядлівасці ўзнагароджвалі апладысментамі ўдзельнікаў «Самага апошняга дня», «Укралі консула» і «Крымінальнага танга», горад жыў чаканнем «Улады цемры».

Чаму менавіта «Улады цемры»? Па многіх прычынах. Па-першае, Леў Талстой на сцэне Малога — сама па сабе з'ява значная. Па-другое, гэтая пастаноўка цяперашняга галоўнага рэжысёра тэатра Барыса Равенскіх, паказаная ўпершыню ў 1956 годзе, мела, без перабольшання кажучы, трыумфальны поспех. Пра спектакль і выканаўцаў галоўных роляў склалася ўжо ладная па памерах крытычна-тэатразнаўчая літаратура. Смелы і па-мастацку абгрунтаваны адыход рэжысуры ад прымітыўнага разумення талстоўскага рэалізму, дзе нібы ўся соль у натуралістычнай праўдападобнасці і этнаграфічнай вернасці падрабязнасцям рускага патрыярхальнага побыту, быў адразу ацэнены як наватарскі падыход да класічнага твора.

Мінчане непасрэдна знаёмяцца з «Уладай цемры» на сцэне Малога на шаснаццатым годзе жыцця спектакля. І першы паказ 10 чэрвеня нават у дасведчаных гледачоў абудзіў новую хвалю ўзрушэння і хвалявання, бо ансамбль выканаўцаў не толькі не згубіў таго рэдкага «адчування прэм'еры», якое надае сцэнічнаму відовішчу нешта непаўторнае па хараству акцёрскага выканання, а і ў нечым узбагаціў гучанне некаторых вобразаў.

— Звярніце ўвагу, як Акім Ігара Ільінскага дапытліва шукае ў самім сабе праўду, як ён судзіць сябе і астатніх. Не ведае, як таго суддзю назваць—«бог» ці «сумленне», але ў пакутах прыслухоўваецца да голасу па-свойму мудрага сэрца...

— У школе і на першых курсах універсітэта мы чамусьці выпрацавалі «непахіснае» перакананне: сцэнічны ў Талстога адзін толькі «Жывы труп». Ну, можа, яшчэ інсцэнізаваныя «Анна Карэніна» ды «Уваскрэсенне». Астатняе з яго драм занадта «смярдзіць анучамі». А тут гучыць нейкая дзіўная і дзівосная паэзія ў амаль што цалкам цёмным сялянскім жыцці...

Гэта — падслуханае ў фае ў часе антракта. Мабыць, толькі рэпарцёрская цікаўнасць апраўдвае тое, што мы карыстаемся і такой «формай» перадачы водгукаў гледачоў. Але з размоў з любым наведвальнікам «Улады цемры» вынікае прыблізна такое ўражанне. І сапраўды, Б. Равенскіх разам з мастаком Б. Волкавым і кампазітарам М. Будашкіным дакладна распрацавалі партытуру спектакля, дзе высакародна высветлена кантрастнае і супярэчлівае жыццё. Мабыць, цяпер, калі акцёры паглыбіліся ў самыя «тайныя тайны» духоўнага пошуку, якія трымціць амаль ва ўсіх героях «Улады цемры», яны яшчэ больш тонка перадаюць маральныя канфлікты, у віры якіх пакутуюць і Мікіта (заслужаны артыст РСФСР В. Коршунаў), і Пётр (заслужаны артыст РСФСР Б. Гарбатаў), і маленькая Анютка (актрыса К. Блахіна), і Акуліна (артыстка Э. Далматава), і Анісся (артыстка А. Чуваева)... Хтосьці з першых крытыкаў спектакля дакладна заўважыў, што Малы тэатр праз большасць характараў раскрывае, якая гэта была заблытаная і пакутліва надзённая дылема для селяніна на Русі — «быць добрым», «быць лепшым» або «жыць добра», «жыць лепей». Адсюль і выбухі ідыятызму тагачаснага сельскага жыцця — злачынства, якое бязлітасна пляміць і выпадкова трапіўшага ў палон «зла» Мікіту, і па-свойму практычную Матруну... Дарэчы, нават у сузор'і бліскучых акцёрскіх работ у гэтым спектаклі выступленне ў ролі Матруны народнай артысткі СССР Алены Шатровай выклікала агульнае захапленне непаўторным хараством вялікай сцэнічнай праўды ў паводзінах і эмацыянальным напаўненні вобраза. Трагедыя рускай жанчыны, чыя душа скалечана да жудасці, прадстае ў трапяткіх пералівах пачуццяў — ад матчынага клопату пра шчасце дзяцей да натуральнага для яе рашэння забіць дзіця, якое замінае гэтаму шчасцю. Святло і цені тут пераплецены з дыялектычнай супярэчлівасцю.

Як ні дзіўна гэта гаварыць, але рэжысура вельмі маляўніча мізансцэніруе такі драматычны спектакль. Камерныя і масавыя сцэны часамі выглядаюць як бы «жывымі малюнкамі». Пазбаўленыя статычнасці, яны натуральна «абжыты» акцёрамі. Таму на працягу ўсяго спектакля глядач не траціць адчування неперарыўнасці дзеі, кожны эпізод якой — гэта працяг папярэдняга, арганічна выліваецца са сказанага і зробленага персанажамі. Такім чынам, можна смела сцвярджаць, што мінчане не толькі пераканаліся ў заслужанай славе «Улады цемры» ў Малым тэатры, а і ўспрынялі гарачы напал сапраўды арыгінальнага, рэалістычнага і прасякнутага тэатральнасцю сцэнічнага твора.

Таму такія дружныя і працяглыя апладысменты спадарожнічалі яркім паказам драмы Л. Талстога. Таму з такімі зацікаўленымі спадзяваннямі чакаюць цяпер мінчане гогалеўскага «Рэвізора». Захоўваючы лепшыя традыцыі рускай рэалістычнай школы, нашы госці дэманструюць зайздроснае ўмельства адмаўляцца ад агульнавядомых рашэнняў і руціны, даваць свежае і сучаснае «прачытанне» класічных твораў.

— Мінчане аказаліся надзвычай тэатральнымі ў сваіх рэакцыях на тое, што ім паказвае наш тэатр,— сказаў заслужаны артыст РСФСР Юрый Саломін.— Мы і раней ведалі гэта. На гэты раз пераканаліся, што такая рэпутацыя вашага горада — невыпадковая...

Групы артыстаў Дзяржаўнага ордэна Леніна акадэмічнага Малога тэатра Саюза ССР на гэтым тыдні пабывалі ў гасцях у трактаразаводцаў, наведалі Хатынь і Курган славы. Рабочыя буйнейшага прадпрыемства беларускай сталіцы па-сяброўску гутарылі з гасцямі, апладзіравалі паказаным на імправізаванай сцэне ўрыўкам з «Рэвізора» і вершам Уладзіміра Маякоўскага і Сяргея Ясеніна.

...Учора і сёння Малы тэатр іграе ў Мінску «Здані» Генрыка Ібсена.

**В. ІВІН.**



У калег заўсёды ёсць аб чым пагаварыць, паспрачацца, ёсць і што ўспомніць. Калісьці акцёрам Цэнтральнага тэатра Савецкай Арміі народны артыст СССР П. Канстанцінаў прыязджаў ў Мінск і выступаў у ролі Моцкіна ў камедыі А. Макаёнка «Выбачайце, калі ласка!» («Камні ў пячонцы»). Цяпер ён у трупе Малога тэатра. Народная артыстка БССР Стэфанія Станюта і народны артыст СССР Леанід Рахленка і завялі гаворку з Пятром Аляксандравічам...



Акцёраў не «адпускаюць» са сцэны апладысментамі. А тут госці завіталі ў заводскі цэх. Трактаразаводцы, узрадаваныя магчымасцю «закідаць пытаннямі» любімцаў, надоўга затрымалі ў сябе артыстаў Малога тэатра.



Госці вельмі хутка «акліматызаваліся» ў не надта ж зручным для драматычных спектакляў будынку тэатра оперы і балета. Але гледачы аднадушна адзначаюць выразную дыкцыю артыстаў, рады, што іх чуеш з любога месца партэра і балконаў. «Сваімі» сталі масквічы і ў закулісным оперным свеце. Народная артыстка РСФСР Лізавета Саладава рыхтуецца да выхаду ў спектаклі «Крымінальнае танга», як у сябе «дома», у Малым...

ГЛАЗУНОЎСКАЯ музыка да гэтага балета набыла шырокую папулярнасць. Меладычна яркая, вобразная, па-сімфанічнаму багатая і сапраўды «танцавальная», яна вабіць да сябе і слухачоў, і харэографаў, і выканаўцаў. Танцавальная кампазіцыя славутага М. Пеціпа таксама набыла папулярнасць.

Праўда, пасля прэм'еры «Раймонды» ў Марыінскім тэатры ў 1898 годзе крытыка адзначала і пэўную раскіданасць лібрэта, і штучную заблытанасць сюжэта...

Пастаноўшчыкі балета ў Мінску А. Андрэеў і Н. Стукалкіна, па прыкладзе многіх сваіх папярэднікаў, таксама ўнеслі ў «Раймонду» папраўкі, імкнучыся надаць дзеянню пэўны дынамізм, лагічна абгрунтаваць сюжэтныя павароты. Харэографы адмовіліся ад таго, што зацягвала звычайна спектакль і было б не вельмі зразумелым сучаснаму гледачу. І навізна, якая цяпер дала, па-сутнасці, арыгінальную кампазіцыю балета, — не проста эксперымент дзеля эксперыменту: гэта творчы пошук.

У мінскім варыянце «Раймонды» няма некаторых мімічных сцэн (напрыклад, расказа Сібілы пра Белую даму або эпізода «чытання» пісьма). У нечым істотным узбагацілася танцавальная лексіка балета. Скажам, у ранейшых рэдакцыях «Раймонды» рыцар Жан дэ Брыен з'яўляўся толькі ў фінале другога акта і заставаўся фактычна толькі кавалерам дзеля занятасці балерын. Цяпер ён поўнаправы ўдзельнік спектакля, яго партыя ўзбагачана танцавальным і драматургічным матэрыялам.

У аснову музычнай драматургіі спектакля ў Мінску пакладзена аўтарская рэдакцыя, дзе кампазітар аб'яднаў усе нумары балета ў тры сімфанізаваныя, завершаныя па форме і змесце сюіты—правансальскую, класічную і венгерскую. Захоўваючы рад выдатных знаходак М. Пеціпа,—выхад і варыяцыі Раймонды, варыяцыі салістак у сцэне сну, «гран па» ў фінале спектакля, А. Андрэеў і Н. Стукалкіна стараліся надаць большую акрэсленасць усё той жа сюжэтнай лініі. Удалым трэба лічыць і «пераклад» шэрага мімічных сцэн на мову танцавальнай пластыкі (сустрэча гасцей, шэсце рыцараў, калыханка і г. д), нанова пастаўлены дуэт Раймонды і Жана дэ Брыена ў першым акце, шмат якія танцы.

Зразумела — самая складаная, насычаная і разнастайная па танцавальнай лексіцы партыя ў «Раймондзе»—партыя гераіні. Першай беларускай Раймондай стала А. Карзянкова. Трывога, хваляванне, радасць, роспач і ўзрушэнне—

# СВЕТ ЯЕ СЦЭНІЧНЫХ ВОБРАЗАЎ

*РОЛІ АКТРЫСЫ МАГІЛЁЎСКАГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА Р. САКАЛОВАЙ*

КАЛІ АКТРЫСА сыграла Ларысу Агудалаву, або Марыю Сцюарт, або Любоў Яравую, — значыць ёсць аб чым пісаць. Можна спрачацца, хваліць або ставіцца з недаверам... Але вось перад намі актрыса, якая больш за дваццаць год іграе на сцэне. Дзесяткі разнастайных роляў, роляў так званых другарадных, эпізадычных. Ды ці такія ўжо «другарадныя» гэтыя ролі, без якіх і п'есы не пішуцца, і спектакляў не існуе? Маленькая роля ці вялікая, але штовечар Раіса Сакалова выходзіць на сцэну, каб жыць у вобразе. Кожны вечар — у новай п'есе, кожны вечар— новы чалавечы лёс, своеасаблівая біяграфія.

**Раіса Сакалова вучылася ў Беларускім тэатральным інстытуце ў вядомага педагога Еўсцігнея Афінагенавіча Міровіча, але авалодала прафесіяй не адразу. З яе былых аднакурснікаў, якія любілі «Райчу» (як яе тады пяшчотна называлі за шчырасць і сардэчную цеплыню), ніхто, мабыць, не падазраваў, што ў гэтай прыгожай і лагоднай дзяўчыны столькі мэтанакіраванасці, такая душэўная адданасць калектыву, у якім пачалося яе творчае юнацтва.**

# НАПЯРЭДАДНІ СТАЛІЧНЫХ СУСТРЭЧ

У ліпені Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы выправіцца ў гастрольную паездку ў сталіцу краіны—Маскву. Цяпер калектыў жыве напружаным творчым жыццём. На асноўнай сцэне і ў памяшканні Рэспубліканскага тэатра юнага гледача рэпеціруюцца два новых спектаклі.

Галоўны рэжысёр тэатра заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР Ціхан Кандрашоў рыхтуе прэм'еру па п'есе вядомага башкірскага паэта і драматурга Мустая Карыма «Ноч зацмення месяца», адну з асноўных роляў у якой іграе народная артыстка БССР Галіна Макарава. «Раскіданае гняздо» Янкі Купалы ўпершыню ўбачыла святло рампы ў 1921 годзе на сцэне тагачаснага Першага БДТ ў пастаноўцы Фларыяна Ждановіча. Праз пяцьдзесят гадоў калектыў купалаўцаў зноў звяртаецца да гэтага выдатнага драматычнага твора народнага песняра. Спектакль рэпеціруе рэжысёр Барыс Луцэнка.

Прэм'еры тэатр мяркуе паказаць грамадскасці Мінска ў чэрвені.

«Раскіданае гняздо» і «Ноч зацмення месяца» ўваходзяць у гастрольную афішу разам з лепшымі спектаклямі купалаўцаў мінулых сезонаў.

КІНО

# ДЛЯ ВАС, З ЛЮБОЎЮ...

ЯК ЧАСТА гаворым мы: любіце прыроду, ахоўвайце яе... Гаворым аб гэтым на старонках нашых газет і часопісаў, імкнёмся прывіць гэтую любоў дзецям, выступаем, выкрываем, папярэджваем і... І па-ранейшаму грамадскасць выказвае трывогу: прырода ў небяспецы.

Немалады ўжо чалавек, вядомы кінарэжысёр Сяргей Іванавіч Сплашноў, з якім мы вядзём аб гэтым доўгую размову, гаворыць з хваляваннем і горыччу:

— Большую частку жыцця пражыў тут, у Беларусі. Тут я здымаю фільмы і, здаецца, аб'ехаў усю рэспубліку. Магчыма, жыхар поўдня, які прывык да экзотыкі, зірне абыякава на няяркую прыгажосць Беларусі. Але якія мілыя яе лёгкія пастэльныя фарбы сэрцу нашаму. Белыя, снегавыя зімы, празрысты блакіт вясновых разліваў, квітнеючае мора ільну і золата восені, расквечанае гронкамі рабіны... Я не паляўнічы, не рыбалоў, ніколі не разумеў гэтых захапленняў і, па-праўдзе кажучы, не ведаю, як гэта ўжываецца ў чалавека любоў да прыроды і імкненне разбурыць яе гармонію...

Тут пачынаеш разумець, што невыпадкова кінарэжысёр ігравога кіно, вядомы па фільмах «Нашы суседзі», «Каханнем трэба даражыць», «Родныя напевы» зрабіў некалькі стужак аб прыродзе Беларусі. Першай данінай любві да роднай прыроды з'явіўся вялікі фільм пра Белавежскую пушчу, зроблены яшчэ дваццаць гадоў назад разам з рэжысёрам У. Стральцовым. З таго часу, напэўна, і працягваецца гэтая любоў да унікальнага запаведніка. Тры гады назад рэжысёр Сплашной зняў яшчэ два фільмы — дваццацімінутны расказ «Белавежская пушча» па сцэнарыі Янкі Сіпакова і Анатоля Клышко і вялікі поўнаметражны фільм «Белая вежа». У розных кутках зямлі людзі ўбачылі палюбілі непаўторнае хараство беларускай прыроды. Абедзве гэтыя карціны, як і апошняя, закончаная зусім нядаўна ў аб'яднанні «Летапіс» — фільм «Родная зямля», зроблены па спецыяльным заказе.

«Заказны фільм»... Што гэта? За такім фільмам звычайна стаіць якая-небудзь арганізацыя. Пры гэтым заказчык у сваёй заяўцы загадзя агаворвае, што ён хацеў бы бачыць у будучай стужцы. Усё гэта, зразумела, стварае пэўныя цяжкасці. Рэжысёр, які ўзяўся выконваць заказ, хочаш не хочаш, павінен выканаць умовы «ігры» і пастарацца ўціснуць у карціну ўсё, або амаль усё, што патрабуе заказчык, іншы раз, на жаль, на шкоду мастацкім вартасцям работы.

Гэта далёка не бяскрыўдныя дробязі. Рэжысёр С. Сплашной ярказ з усімі гэтымі складанасцямі сутыкнуўся ўшчыльную. Паўгадзінная кінастужка «Родная зямля» зроблена па заказе арганізацыі, якая выконвае надзвычай высакародную місію, гэта—Рэспубліканскі савет Беларускага таварыства аховы прыроды. Адчуваецца, што заказчыку хацелася ўзняць у фільме многа вострых, хвалюючых пытанняў, а рамкі часу аказаліся цеснымі, таму, відаць, тая паспешлівая скорагаворка, з якой расказана з экрана аб стольких праблемах па ахове прыроды, таму грашыць часта дыдактызмам і дыктарскі тэкст, які нясе вельмі многа інфармацыі.

Але ў фільме ёсць галоўнае, што працінае яго з пачатку да канца — любоў да прыроды, тонкае адчуванне яе хараства, багацця. Вы з асалодай павандруеце па запаветных сцяжынках, падглядзіце цецяруковае такавішча на досвітку, палюбуецеся на горных аленяў, на вясёлых паласатых дзікіх парасят. Вы ўбачыце, як перасяляюць бабра і ловяць разбойніка-янота...

Два маладыя аператары «Летапісу» Б. Кагановіч і І. Каган, якія здымалі сваю першую самастойную работу, праявілі вынаходлівасць і густ.

Але не толькі аб прыгажосці прыроды расказвае нам фільм, гэта яшчэ і заклік — «Любіце, ахоўвайце, беражыце!..» І тут рэжысёр выступае не толькі як пясняр роднага краю, але і як разумны, клапатлівы гаспадар сваёй зямлі.

Закончана яшчэ адна стужка аб роднай прыродзе. За плячамі рэжысёра велізарны вопыт складанай работы. І множства дзівосных гісторый. Напрыклад, такая.

Трэба было аднойчы для карціны «Белая вежа» зняць эпізод аб тым, як ліса палюе і наганяе зайца. Зняць яго ў натуры немагчыма, — звяры вельмі чуйныя, а хуткасць рэакцыі такая — не ўгнацца ні адной камеры. Здымалі ў вальеры. Адна ліса вырашыла не чапаць зайца, пераскочыла загародку і знікла... Другая спакойна зайшла ў вальер, не спяшаючыся падышла да зайца, які замёр ад страху, і раўнадушна абнюхаўшы яго... адышла з вялікай годнасцю. Сакрэт раскрыўся праз некалькі мінут — аказваецца, перад здымкамі лісу накармілі... На шчасце, аператар зняў усё гэта на плёнку. І зусім нечакана замест крываважэрнай сцэны атрымаўся па-свойму цікавы і хвалюючы эпізод.

Якія творчыя планы С. Сплашнова? А што калі злучыць вопыт рэжысёра ігравога кіно з вопытам рэжысёра-дакументаліста, знаўцы прыроды? Мабыць, такі мастак зробіць цікавую і змястоўную карціну, у якой у тканіну дакументальнага фільма арганічна ўпляталася б ігравая драматургія. Такіх прыкладаў нямала ў кінематографе.

Адна са стужак з вялікім поспехам прайшла на экранах — фільм А. Згурыдзі «Чорная гара». Чаму б і нам у Беларусі, маючы рэжысёра, які злучыў у сабе два кінематаграфічныя прызванні, не зрабіць такі ж эксперымент? Жыццё падказвае — ёсць што здымаць. Ёсць і каму аддаваць натхненне надзённай тэматыцы.

**І. ЯФРЭМАВА.**

# КУПАЛАЎСКІЯ ЧЫТАННІ

На гісторыка-філалагічным факультэце Гомельскага дзяржаўнага універсітэта адбыліся Купалаўскія чытанні. Уступным словам іх адкрыў загадчык кафедры беларускай літаратуры, доктар філалагічных навук М. Грынчык. Былі заслуханы даклады «Я. Купала і наша сучаснасць» і «Паэма Я. Купалы «Курган» старшых навуковых супрацоўнікаў Інстытута літаратуры імя Я. Купалы М. Яроша і У. Казберука, «Я Купала — наватар беларускага верша» М. Грынчыка, «Я. Купала і развіццё літаратурнай мовы» прафесара ГДУ У. Анічэнкі, паведамленні «Я. Купала і А. Твардоўскі» старшага выкладчыка ГДУ М. Родчанкі і «Я. Купала і народная творчасць» дацэнта ГДУ М. Янкоўскага.

ПАЭТЫЧНАЯ ПАВЕРКА

Янка СІПАКОЎ



# ВЕЧА СЛАВЯНСКІХ БАЛАД

## СНЯДАННЕ

БАЛАДА РЭВАЛЮЦЫІ
XX стагоддзе

Што ж, не саромцеся, панове,—
На поўніцу,
на поўніцу хапайце,
Пакуль у місах—гэткіх далікатных!—
Не схаладала страва... Ешце, ешце!
Смялей трымайце зграбненькія лыжкі,
Манерна адтапырыўшы мізінцы;
А на мяне ўвагі не звяртайце:
Такой бяды—
«забыліся» сумысна
Перада мной, савецкім дыпламатам,
На прадстаўнічым гэтакім прыёме
Пакласці лыжку...
Не бяда—прывыклі,
Бо колькі ўжо гаспадароў «гасцінных»
Пра лыжкі нашы гэтак забывалі!
І потым пасміхаліся паціху
У свае талеркі...
Што ж, няма тут дзіва:
У лыжцы той, што сёння мне не далі,
З якою асалодай, каб прымелі,
Вы б нашу рэвалюцыю ўтапілі.
А заадно і новую краіну,
Якая босымі нагамі і лапцямі
Адважылася, бы кату на хвост той,
На фрак ваш самавіты наступіць...
Што ж, ешце весялей, панове,
І рот смялей паўнютка набівайце
Біфштэксамі, біфштэксамі.
Умінайце
Усё, што на стале стаіць...
Нічога...
Бярыце і маё сабе, бярыце!
Вы на мяне ўвагі не звяртайце:
Такой бяды—«забыліся» таксама
Відэлец мне падаць...
Вы ешце, ешце...
А я, паны, нічога—абыдуся,
Бо голад для мяне не навіна.
Тым больш было б мне нават
брыдкавата
Тут,
за сталом за вашым аб'ядацца
Тады,
як галадае мой народ...
А мы ж усе аднолькавыя зараз—
Рабочыя, сяляне, дыпламаты
Усе мы галадаем, халадаем,
Каб цёпла краю нашаму было...
Што вы сказаць хацелі?
Рот набіты,
Укоптар панапханы— аж праз губы,
Здаецца, выліваецца дастатак...
Ну што талковае сказаць тут можна!
Навокал жвачка,
жвачка,
жвачка...
О, гэты статак жвачных за сталамі,
Што хрумстаюць і спераду і збоку!
Я пацярплю...
Вы ешце...
Не глядзіце
Яхідна гэтак на мяне.
Усё роўна
У заўтрашніх газетах вы напішаце,
Што дадзена было снядание
У гонар бальшавіцкага пасла.



## ВЯЗЕНЬ

ПОЛЬСКАЯ БАЛАДА
XX стагоддзе

Ад Варшавы далей і далей—
Камянее й жалезнае сэрца:
Уяздоўскіх пажоўклых алей
Больш ніколі не ўбачыш, здаецца.

Колы грукаюць, колы грымяць,
Як цяжкія фашысцкія боты.
А платформы рыпяць—не суняць!—
Ды на ўсіх, ды на ўсіх паваротах...

Як, Радзіма, суцешыць цябе
Паланёна-бязраднаму вязню?!
А ў асенняй, блакітнай журбе
Позірк смуткам натомлены вязне.

Як запомніць вось гэты блакіт
Над Айчынай—засмучаным краем,
Што шчымліва-тужлівым такім
Толькі ў часе растанняў бывае.

Гэтых коней, што ў ціхіх лугах
Топчуць звонкія, крохкія промні;
Гэты крык жураўлёў, бы туга,—
Трэба ўсё для чужыны запомніць.

Паланез гэтых жоўтых бяроз
Не забыцца. І ўспомніць калісьці,
Як на твар твой вятрыска атрос
Шапаткое, пажухлае лісце.

І ў няволі ўздыхні, спамяні,
Калі сум па радзіме агорне,
Як праводзілі людзі цягнік
І цябе на адкрытай платформе.

Людзі шапкі скідалі далоў,
Толькі ўбачыўшы профіль знаёмы,
І схілялі галовы без слоў, —
Бы праводзілі роднага з дому.



А цягнік праз свае паплавы
Цягне сілаю ў край нежаданы..
Партызаны, не бойцеся вы!
Гэй, ці чуеце вы, партызаны?

Раз'яднайце, як провад, мой пуць
Ці засаду зрабіце напэўнай...
У няволю фашысты вязуць
Вязня сумнага—помнік Шапэна.

## ЛІТАЎРЫ

УКРАІНСКАЯ БАЛАДА
XVI стагоддзе

Якія цяжкія павекі!
Зліпаюцца—не саўладаць.
І лекі, адзіныя лекі—
Спаць,
спаць,
спаць...

І ўжо расплываюцца краты,
Знікаюць у ціхай смузе:

НА БЛАКІТНЫМ ЭКРАНЕ

# УСІМІ ФАРБАМІ «ВЯСЁЛКІ»

Непасрэднасць выказвання выканаўцаў, самабытнасць, арыгінальнасць шматлікіх нумароў рэпертуару вабяць кожнага, хто знаёміцца з канцэртнымі выступленнямі артыстаў-аматараў. Але як важна, каб іх праграмы ствараліся ў садружнасці з прафесійнымі дзеячамі мастацтва. Пра гэта падумалася яшчэ раз, калі мы знаёміліся з новым цыклам музычных перадач з удзелам лепшых калектываў мастацкай самадзейнасці рэспублікі, які пачала паказваць сёлета Мінская студыя тэлебачання. Атрымаў гэты цыкл назву «Вясёлка».

Варта адзначыць, што кола выканаўцаў тэлевізійнага цыкла «Вясёлка» такое ж неабмежаванае, як і колькасць артыстаў-аматараў у нашым народзе. Аўтары перадач — кожная праводзіцца раз у два месяцы—пастаянныя. Сцэнарысты — рэдактар Валерыя Скварцова і рэжысёр Віктар Шавялевіч. Нязменныя і астатнія ўдзельнікі пастановачнай групы «Вясёлкі»: мастак Фаціма Лебедзь, гукарэжысёр Юрый Галачкін, аператары Анатоль Акуліч, Уладзімір Хромаў, Леанід Акулаў.

Добра, калі творчы калектыў умее знайсці адзіны стылявы ключ для цыкла перадач. Тут гэта ёсць. Спецыяльна напісаны музычныя пазыўныя перадач, зроблена тэматычная застаўка народна-гумарыстычнага характару, абсталяваны пастаянны маляўнічы інтэр'ер студыі, дзе выступаюць самадзейныя спевакі і танцоры.

У афармленне ўваходзяць цікавыя замалёўкі на казачныя і бытавыя тэмы, звязаныя з музычным мастацтвам. За кожнай з гэтых карцінак схаваны скамарохі. Раптам, усе сем, яны выбягаюць з кубамі ў руках, і з літараў, што намаляваны на кубах, узнікае назва перадач—«Вясёлка». Кожны скамарох камічнымі рухамі і мімікай яшчэ як бы «ажыўляе» той персанаж, што акрамя літары намаляваны на яго кубе.

Але функцыі скамарохаў складаюцца не з аднаго толькі «ўводу» ў перадачу. Яны вельмі тактоўна, з пачуццём народнага гумару каменціруюць сцэнічныя падзеі перадач. Так, падзеі! Бо перадачы будуюцца па прынцыпе тэатралізацыі песні і танца, іх тактоўнага ўзбагачэння мізансцэнамі салістаў і дэкарацыйным афармленнем. Акрамя гэтага, на лічылках, буфанадзе, патанцоўках, вершаваных рэпрызах, гумарыстычных гульнях скамарохаў будуюцца ўсе звязкі між асобнымі нумарамі ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці, якія занятыя ў перадачы. У гэтым таксама стылявая адзнака «Вясёлкі». І прафесійныя артысты мінскіх тэатраў Леанід Крук, Арнольд Памазан, Анатоль

Міхась ДАНІЛЕНКА

# АСІНАВЫ ЛОГ

На даўняй пасадцы сасняку пракінуліся рыжыкі.

Колькі дзён лілі дажджы, зямля, што амаль ўсё лета была сухой і гулкай, як той бубен, увільготнела. А цяпер колькі начэй запар стаяла парнасць — нават не верылася, што гэта ўвабралася ў поўную сілу восень — і пайшлі расці падабабкі, лісічкі, апенькі. А ў пасадцы — глядзі ты — рыжыкі.

Першага з іх Баранаў убачыў каля шурпатага ствала бярозы, што расла тут, у пасадцы. Маленькі ружаваты сподачак з разводамі на тугім капялюшыку прытаіўся пад залацістым бярозавым лістком, што прыліп да рыжыка. Баранаў адставіў кошык і, перш чым нагнуцца, уважліва азірнуўся. Вунь пад калматымі галінамі сасонкі выглядаюць яшчэ. Прысыпаныя злёгку ігліцай, ружавелі рыжыкі — адзін, другі... Цэлая сямейка.

— Вось дзе вы, галубкі, прытаіліся,— ціха прамовіў Баранаў і зрэзаў крохкі капялюшык.

Да яго прыліплі пясчынкі, сухія іголкі шыгалля. Рыжык прыемна халодзіў руку. Баранаў нагнуўся і, як гэта бывае з заўзятым грыбніком, пачаў адзін за адным зразаць рыжыкі — ад маленькіх — з пяцікапеечную манету, да большых — такіх, як пластмасавыя вечкі, якімі закручвала Вера слоікі.

У лесе стаяла старожкая цішыня. Нават не шумеў у вершалінах вецер, не папісквалі непаседы-сініцы, не крычалі назойлівыя сойкі. Лес думаў важную, аднаму яму вядомую думу.

Каля трухлявага пня высіўся мурашнік. Яго стажок за лета прыкметна падрос. Раней, калі ляснік яшчэ рабіў у лясніцтве і хадзіў у свае штодзённыя абходы, ён часцяком спыняўся каля гэтага мурашніка. Баранаў прыкмеціў: калі руплівыя мурашы цягалі сухое шыгалле, травінкі і старанна закрывалі ўсе норкі ў мурашніку, так і чакай непагадзі. Цяпер мурашоў не было відна: мусіць, паснулі бедалагі,— папрацавалі і будуць спаць сабе ў цяпле аж да вясны.

Рыжыкі раслі ля самай дарогі. Баранаў падзівіўся сам сабе, што ніхто іх не заўважыў, хоць па дарозе мусіць часцяком праходзілі людзі ў бок Асінавага логу, і пачаў зразаць і іх.

Церпка пахла прэлым лістам, згнілай ігліцай. У гушчыні лесу чырванелі гронкі рабіны. Ласуны-дразды ўволю наласаваліся салодкімі ягадамі, нажыравалі і цяпер пакінулі яркія гронкі лесу дажджам, перадзімовай слоце.

Чалавек перакінуў на руку кошык і падаўся ляснай дарогай, густа ўсыпанай лістотай, у бок Асінавага логу. Яго цягнула туды, як магнітам. І кожны раз, як ён выбіраўся ў лес, ён не абмінаў тых мясцін.

З шэрага неба праглянула сонца. Затрапяталі залацістыя дарогі. Паласаты чмель злосна загуў і апусціўся на дробныя бэзавага колеру кветкі. Барачаў падзівіўся: адкуль узяўся гэты бухматы непаседа-шаптун. Ён спыніўся і травінкай паказаў чмялю, дзе шукаць нектару. Не спадабалася: ён загуў і, як бамбавоз, нізка паляцеў над палянай.

Пайшлі стройныя сосны, драбналессе. Тут пад дрэвамі жаўцелі лісічкі. Яны раслі ў асобных месцах кругамі. Баранаў усміхнуўся, успомніўшы, як Вера сказала яму аднойчы, што ў народзе завуць іх «ведзьмінымі колцамі».

Вера ўжо каторы год вучыць у іхняй вёсцы дзяцей. Мусіць, яна неблагая настаўніца: гадоў пяць назад ёй прысвоілі званне заслужанай. Тады яны ў вялікім і гулкім, як звон, іхнім доме наладзілі невялікую ўрачыстасць. Было хораша сядзець за сталом, засланым чысцюткім абрусам, і глядзець, як скачуць па столі сонечныя зайчыкі ад графіна, ад таго, што ў ім...

На прагаліне чырванеў — быццам палаў — клён. Вецер яшчэ не абтрос з яго лісты. Яны аж свяціліся на фоне шэрых дубовых ствалоў, арэшніку, бяроз.

А вунь і Асінавы лог. Стрункія ствалы асін падняліся высока ў неба. Летам пад імі расце мяккі «зязюльчын лён», пад кустамі арэшніку зелянее заечая капуста, а туды далей, у гушчар, гусцяцца багуны. У гарачыя дні Вера не любіць сюды хадзіць: кажа, ад багуновага паху кружыцца галава...

Другі год Баранаў на пенсіі.

— Хадзі на паляванне, у грыбы,— гаварыў яму ляснічы Шарамецьеў, калі праводзілі Баранава на пенсію.— Будзь пэўны: ні парубак самавольных, ні пажару ў тваім абходзе не дапусцім.

А ён і не трывожыўся за абход. Ведаў: усё будзе так, як гаварыў Шарамецьеў. Толькі непрывычна было ўставаць раным-рана і не ведаючы, куды пакласці рукі, тупаць па двары, перакладваць сухія паленні на трывотні.

Пад асінамі зрэдку траплялiся падасінавікі з шыкоўнымі чырвонымі капялюшыкамі. Зрэжаш тоўсты корань такога грыба, і ён адразу сінее на зрэзе, цямнее, а капялюшык тугі, моцны.

Каля невялічкага пагорка, усцеленага, як медзякамі, круглымі лістамі асін, Баранаў стомлена прысеў на пяньчук. Што ні кажы, а гады даюць сябе адчуць. Бывала, аббяжыць свой абход задоўга да ўсходу сонца, пабудзе і ў лясніцтве, а ногі не стамляліся. А можа зусім і не ад гадоў прыгінаецца ў яго, Баранава, спіна, і хіліцца долу галава каля гэтага вось пагорка?

Тут адчувалася клапатлівая чалавечая рука: ледзь прыкметная сцежачка, што сюды вяла, была чыста падмецена. А чырванаватыя, нібы падпаленыя, лісты мусіць зляцелі з дрэў у мінулую ноч. Яны ляжалі на пагорачку, як усё роўна медалі...

Усчаўся ветрык. Лістота на асінах спалохана затрапятала, захлопала. Баранаў сцепануў плячыма. Ён рыўком падняўся і падаўся ад Асінавага логу. І колькі ні ішоў, прадзіраючыся напрамкі праз гушчэчу ядлоўца, усё чуў, як трапятала лістота. І мроілася ў тым трапятанні Баранаву, як пляскаюць маленькія дзіцячыя далоні — пляскаюць ад няхітрай дзіцячай радасці, ад міжвольнага захаплення.

Дома Вера правярала сшыткі. Яна ўважліва глядзела, як муж моўчкі высыпаў на разасланую газету рыжыкі, зялёнкі, лісіцы, чырвонагаловікі.

— Там быў? — запытала яна.

Баранаў прамаўчаў — старанна ачышчаў капялюшыкі ад ігліцы, сухіх лістоў, сіўцу. Вера на момант заплюшчыла вочы. І адразу ў яе ўяўленні паўсталі стройныя асіны, прысыпаны лісцем невысокі пагорачак, пяньчук і сцяжынка, што вяла сюды ад дарогі. Там, пад тым пагорачкам, ляжалі першая жонка Баранава і трое малых дзяцей. Іх карнікі расстралялі, калі Баранаў быў у партызанах...

Яна зноў схілілася над сшыткамі. А Баранаў сартаваў грыбы — рыжыкі складваў да рыжыкаў, падасінавікі — з падабабкамі, белыя скрыпіцы ссунуў на самы край газеты: іх Вера потым будзе доўга вымочваць...




Павел САКОВІЧ

# БАЦЬКАЎ САД

Немагчыма ўявіць сабе восень без ціхіх вераснёўскіх садоў, абцяжараных духмяным важкім ураджаем... Якраз у гэтую пару я прыязджаю да бацькоў у Оршу. Ёсць у іх невялічкі сад. Сотак, мабыць, на сем ці восем. Ад астатняй часткі горада яны даўно адмовіліся: стала цяжка ўпраўляцца з зямлёй, валтузні з якой у горадзе бадай яшчэ больш, чым у вёсцы. А гэтыя соткі, густа зарослыя малінай, агрэстам, парэчкамі, яблынямі ды грушамі, старыя пакінулі дзецям. Калі мы доўга не прыязджалі, бацькі не спяшаліся здымаць ураджай аж да позняй восені, і ўсё напаміналі ў пісьмах, што яблыкі пераспелі і хутка пападаюць з дрэў і паб'юцца...

І вось я зноў хаджу па сонечным ціхім садзе. Маці, нібы экскурсавод, расказвае мне пра кожнае дрэва: калі якія былі на ім ураджаі, і чым хварэла, і як вясной, завіхаліся вакол яго пчолы... Дрэвы старыя, але амаль побач з кожным падрастае яблынька ці грушка-падлетак. «Вядома, для нас стараюцца, — з прытоеным сумам думаю пра бацькоў,— хоць і ведаюць, што наўрад ці хто-небудзь з нас будзе жыць тут пасля іх...»

Спыняемся ля апортаўкі, і маці паказвае вялізны чырвонапалосы яблык. Зразумеў, што ён для мяне. Уявіў сабе, як маці дзесьці з сярэдзіны жніўня пачынае выбіраць найлепшыя плады: «Для Толі», «для Зоі», «для Вольгі»...

Тут жа, пад яблыняй, паспытаў садовы гасцінец. Прапаную кавалачак маці, але яна паспешліва адводзіць руку: «Што ты, няма чым!» А я зусім не ўпэўнены, што яна не можа ўкусіць такі спелы яблык.

Потым, спахапіўшыся, маці пакідае мяне, таропка крочыць да хаты па сваіх гаспадарскіх справах. Крочыць сонечным, у павуцінні, садам, і я чую шоргат ног па бульбоўніку ды яшчэ — як часта б'юць па сухой зямлі пераспелыя яблыкі!..

ЯНА, гэтая добрая і сцішаная радасць, прыйшла да мяне адразу, як толькі лагодны, прасветлены ў твары бацька, зайшоўшы з панадворку ў хату, урачыста-стрымана прамовіў:

— Ну, маці, заўтра пачынаем касавіцу.

Гэта значыць, што маці па даўняму заведзенаму, мусіць, яшчэ далёкімі продкамі, звычаю, які, на шчасце, захаваўся і шануецца ў нашых Ціханчыках, павінна сёння выпаліць лазню і падрыхтаваць на заўтра харч,—вядома, самы найлепшы: касіць — не языком мяньціць. І яшчэ адзін добры звычай: за ўвесь час касавіцы ніхто ў рот не возьме і кроплі гарэлкі,— цела павінна налівацца толькі прыемнай стомленасцю.

Язэп КУРАЛІКАЎ

# КАСАВІЦА

— А ты, адпускнік,— звярнуўся ён да мяне,— ці не жадаеш ты свежым паветрам падыхаць, размяць сваю інжынерную спіну?

— Што ты надумаў, Лявон? — Адразу ж накінулася на яго маці.— Колькі гадоў прамінула, як і касы ён не браў у рукі...

— Гэтаму рамяству ніколі нельга развучыцца, калі толькі чалавек калі-небудзь па-сапраўднаму прынадзіўся да яго,— падміргнуў мне бацька.— А ў Андрэя, дзякуй богу, хватка мая.

І ў ва мне пасялілася тая, калі ўжо зведаная, з юнацкіх часоў радасць, і хацелася, як некалі, скінуўшы свае гарадскія сандалеты, падкасаць штаны і шлёпаць босымі нагамі ад калодзежа да лазні з поўнымі вёдрамі вады, адчуваць за дзень угрэтую зямлю, а затым, седзячы ў канцы горада каля той жа лазні на мурагу, удыхаць гаркаваты дым разам з разамлелым пахам старога перапаранага бярозавага лісця.

І я з ахвотай ўзяў вёдры.

А тым часам вёска пачала ўжо дружна ажываць: чуліся ўзбуджаныя галасы дарослых і дзяцей, часты рып калодзежных жураўлёў,— у нас пакуль што не прыжыліся цэментаваныя колцы. І не таму, што не перавяліся яшчэ свае майстры рабіць на многія гады адмысловыя дубовыя зрубы, а таму, што вяскоўцы лічаць у зрубе ваду і чысцейшай, і смачнейшай.

— Пецька, каб на цябе, немач,— хрыпіць з двара на свайго меншага цётка Арына.— Занясі ў дзядзькі лявонаву лазню дровы!

— Няхай бегае, сам занясу,— памяркоўна адзывацца дзядзька Мікіта.

— Ты заўсёды толькі і патураеш гэтаму аболтусу,— не здаецца цётка Арына.— Пецька, каму я кажу!.. Во, гэта тваё васьпітанне!..

Бацька спачатку гмыкае раз-другі, а потым з яго грудзей я чую не рогат, а нейкае своеасаблівае цёханне, а на вачах паказваюцца слёзы:

— От жа ўмора,— гаворыць ён, і яго плечы ўздрыгваюць ад нястрымнага смеху.—Васьпітання... Цёх-цёх-цёх... Гэта ж Арына яго пабыла ў Светлагорску ў дачкі які месяц, дык, бач ты яе, гарадскою ўжо стала... Цёх-цёх-цёх... Васьпітання, каб ты жыла... Цёх-цёх-цёх...

Сюды, да лазні, з добрым бярэмам сухіх бярозавых дроў, кіруе баразной дзядзька Мікіта. Ён яшчэ здалёк усміхаецца,ківае ў свой двор галавой, адкуль усё яшчэ не сціхае, на гэты раз ужо дабрадушная буркатня жонкі.

— Вось так і марнуюся ўвесь свой век,— гаворыць дзядзька Мікіта і скідае дровы. Гэта ў яго, вядома, напускная незадаволенасць: жывуць жа яны з цёткай Арынай, як кажуць, душа ў душу.

— Не дай бог, з'ездзіць яна яшчэ хоць раз, дык, глядзі, балкон прымусіць прыбудаваць...

І зноў — бацькава цёханне і дробненькі рогат дзядзькі Мікіты.

Яны закурваюць, зацягваюцца з асалодай дымам; быццам мяне і няма тут, пачынаюць сваю паважную сялянскую размову.

— Заўтра добрая пагода будзе,— гаворыць дзядзька Мікіта.—Калі жанчыны ўслед за намі будуць варушыць пакосы, дык к вечару можна і ў копы скласці.

— Ды яно так,— згаджаецца бацька.— Жанчыны будуць.

— Сярпам даўно ўжо далі адстаўку, хутка і нам дадуць, Лявон.

— Заканамерна, брат. Гады праз тры-чатыры ўпарадкуем нашы сенажаці, каб можна было пускаць машыны, тады вунь якая палёгка будзе! Ні копы, ні стагі не трэба будзе кідаць. Машына будзе касіць, машына будзе сабіраць і цюкаваць. Механізацыя, брат, гэта табе не пуп...

— А ці будзе такая во радасць перад касавіцай, як цяпер!— разводзіць рукамі дзядзька Мікіта.— Усё-такі, як ні кажы, а касавіца для нас як тое свята... Хаця, прызнацца, гэтае свята ў нас і не канчаецца... глядзіш—сяўба, а там і касавіца, а там і жніво,— усё, братка, святы.

Яны — замаўкаюць, засяроджана дымяць.

— Што ж, пойдзем косы, ладзіць,— першым устае бацька.—Тут нам цяпер няма чаго рабіць, усё давядзе да ладу маці. Яна ў нас на гэта здатная. Цябе Мікіта, я тады гукну, як будзем ісці з Андрэем...

Над вёскай пачынаўся ўжо спачатку нясмелы, дробны перастук малаткоў, затым ён гусцеў, смялеў і ўсё — на розныя галасы; плыў далёка за неціпрокую спакойную Ліпянку, кранаўся першых двароў Васілёўкі, і вось ужо адтуль, нібы чакаючы гэтага часу, сыпануў сустрэчны перастук.

Мужчыны кляпалі косы.

 СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ

# ЗАПРАШЭННЕ ДА ПАДАРОЖЖА

— Ці не хочаце вы зрабіць падарожжа ў XIX стагоддзе, каб сустрэцца з вядомымі пісьменнікамі? — запытаўся я ў знаёмага настаўніка-славесніка.

Ён са здзіўленнем паглядзеў на мяне і з усмешкай адказаў пытаннем на пытанне:

— А далёка прыйдзецца ехаць?

— Ды не. Падарожжа будзе па Беларусі. Вы зможаце пазнаёміцца з А. Грыбаедавым, А. Пушкіным, В. Кюхельбекерам, П. Чаадаевым, М. Гогалем, Ф. Рашэтнікавым, А. Блокам...

— І ўсе яны былі ў Беларусі?

— Не толькі яны, а і шмат іншых выдатных пісьменнікаў і дзеячоў рускай культуры.

— А як жа можна сустрэцца з імі? — ужо сур'ёзна дапытваўся мой знаёмы.

Вазьміце ў бібліятэцы кнігу Ісідара Баса «Падарожжа ў літаратурнае мінулае». А лепш пасьпяшайцеся ў кнігарню і купіце сабе экземпляр для ўласнай бібліятэкі.

...І вось — падарожжа. Першы прыпынак—«Ля Буга-ракі» (так называецца раздзел, якім адкрываецца кніга). І. Бас пераносіць нас у адзін з майскіх дзён далёкага 1813 года і знаёміць з маладым рускім афіцэрам А. Грыбаедавым, які прыехаў служыць у беларускі горад Кобрын, а потым быў пераведзен у Брэст. Мы бачым будучага аўтара славутай камедыі «Гора ад розуму» на пачатку яго літаратурнага шляху, даведваемся пра яго першыя выступленні ў друку, робімся сведкамі станаўлення яго характару і светапогляду.

А потым пераносімся ў халодную зімовую ноч, калі цераз Буг пераходзіць В. Кюхельбекер, які пасля паўстання дзекабрыстаў спрабуе пазбегнуць царскіх кіпцюроў. Аўтар робіць нас сведкамі «дзівоснага выпадку» з П. Чаадаевым, які не па сваёй волі вымушан быў затрымацца ў Брэсце на сорак дзён для допыту і вобыску. І. Бас падрабязна расказвае пра брэсцкі перыяд жыцця Ф. Рашэтнікава. У нарысе паказаны тыя непамерныя цяжкасці, якія выпалі на долю пісьменніка ў душнай атмасферы правінцыяльнага гарадка. Размова ж пра твор Ф. Рашэтнікава, якая ўзнікла на аснове беларускага жыцця, пацвярджае, што яму былі блізкія пакуты беднага люду, якому «есці няма чаго».

На каштоўных звестках пабудаваны нарыс «Л. М. Талстой і беларуская культура». І. Бас прыводзіць шматлікія прыклады папулярнасці вялікага пісьменніка ў Беларусі, знаёміць нас з яго сябрамі і ворагамі, шырока паказвае сувязі Талстога з беларусамі. Такім жа багатым матэрыялам насычан нарыс пра «вайсковы перыяд» жыцця А. Блока на беларускім Палессі.

Зразумела, з цікавасцю ўспрымаюцца і іншыя артыкулы, хоць некаторыя з іх і беднаваты па адкрыцці. Так вельмі скупа гаворыцца пра знаходжанне ў Беларусі А. Бястужава, П. Вяземскага, А. Дэльвіга і іншых рускіх пісьменнікаў і дзеячоў культуры, таму што да гэтага часу высветлены не ўсе акалічнасці іх сувязей з беларускім краем. Дарэчы, і аўтар зазначае, што «нявывучанымі застаюцца многія пытанні, якія маюць непасрэдныя адносіны да праблемы ўзаемасувязей і ўзаемаўздзеяння літаратур». Гэта і прывяло да таго, што многія факты ў кнізе толькі названы, але не асветлены належным чынам. Адсюль жа ў асобных месцах кнігі сустракаецца пералік і скорагаворкі. І ўсё ж кніга І. Баса дае магчымасць убачыць і ўсвядоміць няспынны працэс росту пазнавання Беларусі дзеячамі рускай культуры ў XIX — пачатку XX стагоддзяў.

На шматлікіх прыкладах аўтар кнігі раскрывае адносіны да Беларусі В. Бялінскага, А. Герцэна, М. Чарнышэўскага, М. Дабралюбава, Л. Талстога, М. Горкага... Багаты матэрыял, які сабраў І. Бас, дазваляе яму зрабіць вывады, што лепшыя рускія пісьменнікі (А. Грыбаедаў, А. Пушкін, В. Бялінскі, Ф. Рашэтнікаў, М. Чарнышэўскі, Л. Талстой і іншыя) ніколі не былі абыякавымі да жыцця беларускага народа, што яны ўважліва сачылі за лёсам прыгнечанай беларускай старонкі, праяўлялі заклапочанасць яе будучыняй. Абапіраючыся на сувязі многіх рускіх пісьменнікаў з Беларуссю, даследуючы іх адносіны да становішча беларускага народа ў мінулым стагоддзі, І. Бас робіць слушныя вывады, што знаёмства з беларускай рэчаіснасцю ў адных выпадках выклікала, а ў другіх — умацоўвала ў прадстаўнікоў рускай літаратуры перакананне ў неабходнасці ліквідацыі прыгоннага права, самадзяржаўна-паліцэйскага ладу, нацыянальнага прыгнёту.

У кнізе неаднаразова прыводзяцца факты ўплыву рускіх пісьменнікаў на беларускую літаратуру (напрыклад, М. Гогаля на В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Коласа, З. Бядулі). Гаворыцца аб гэтым тактоўна, з добрым разуменнем пытання.

Шырока асвятляюцца аўтарам праяўленні павагі і ўдзячнасці беларускага народа лепшым прадстаўнікам рускай культуры за братэрскую падтрымку ў самыя цяжкія часы прыгнёту. На шматлікіх прыкладах І. Бас паказвае, з якой вялікай павагай да А. Пушкіна адзначалася ў Беларусі 100-годдзе з дня нараджэння вялікага паэта, гаворыць пра тое, з якой добразычлівасцю і зацікаўленасцю беларускі глядач у свой час успрымаў ігру А. Яблачкінай, М. Савінай, В. Камісаржэўскай, прыводзіць факты ўспрымання дарэвалюцыйным беларускім чытачом твораў І. Тургенева, У. Караленкі, В. Верасаева, А. Купрына, І. Буніна, Л. Андрэева, цёплага прыёму п'ес М. Гогаля, А. Астроўскага, А. Чэхава, М. Горкага.

Увагу даследчыка прыцягнулі таксама сувязі беларускага народа з культурай братняй Украіны, а таксама беларуска-польскае пабрацімства. Апошняе звязана з імёнамі А. Міцкевіча, Я. Чачота, У. Сыракомлі, А. Вярыгі-Дарэўскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, С. Манюшкі, Г. Сянкевіча, Э. Ажэшкі...

Такім чынам, літаратурна-крытычныя артыкулы, якія складаюць кнігу І. Баса, прысвечаны агульнакультурным, у першую чаргу, літаратурным сувязям беларускага народа з рускім, украінскім і польскім народамі ў XIX — пачатку XX стагоддзяў. Той, хто возьме ў рукі кнігу І. Баса, сапраўды зробіць цікавае падарожжа ў літаратурнае мінулае. З дапамогаю архіўных матэрыялаў, мясцовай прэсы і канкрэтных фактаў, сабраных па крупінках з іншых крыніц, аўтар грунтоўна пашырае наша ўяўленне пра культурныя сувязі беларускага народа. Адначасова І. Бас абагаціў нас многімі новымі звесткамі з біяграфій вядомых пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў.

Да недахопаў кнігі трэба аднесці тое, што яе аўтар не заўсёды выбіраў самы рацыянальны спосаб выкладання знойдзеных звестак. Недакладна адабран аўтарам матэрыял да асобных артыкулаў, што прыводзіць да іх кампазіцыйнай рыхласці, што аслабляе іх агульнае ўражанне. Асобныя заметкі пры іншай пабудове маглі б быць больш займальнымі — у добрым сэнсе гэтага слова.

Цікавы нарыс пра Уладзіміра Самойлу сябра і першага перакладчыка твораў Я. Купалы на рускую мову, але ён стаіць неяк у баку і тэматычна не звязаны з іншымі артыкуламі.

Адсутнасць зносак пры большасці цытат, нягледзячы на тое, што аўтар звяртаецца да многіх літаратурных першакрыніц, неяк мімаволі зніжае пераканаўчасць доказаў.

**Ц. ЛІЯКУМОВІЧ.**

Ісідар Бас. «Падарожжа ў літаратурнае мінулае». Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1971.

# ШТРЫХІ ДА ТРОХ ПАРТРЭТАЎ

МАБЫЦЬ, слушныя нараканні ў адрас літаратараў і кінематаграфістаў, што яны надта ж рэдка робяць спробу замацаваць на паперы (у мемуарным або дакументальным жанрах) і на экране аблічча славутых дзеячоў беларускага савецкага мастацтва. Непасрэдны і пераменлівы характар стваральніка незабыўных сцэнічных вобразаў часцей за ўсё застаецца таксама за межамі даследаванняў тэатразнаўцаў. Мо таму чытачы з такой цікавасцю і «ловяць» кожную мемуарную кніжку, дзе ёсць хоць асобныя жывыя штрыхі (хай сабе толькі рысачкі), якія могуць памагчы «аднавіць» у памяці або і «стварыць» у сваім уяўленні партрэт таго, хто ў пару творчай сталасці хваляваў розум і захапляў пачуцці гледачоў. Бадай, акрамя «Нататак акцёра» Ц. Сяргейчыка, нарысаў-успамінаў Я. Рамановіча ды некаторых публікацый А. Звонака, Г. Коласа, Р. Сабаленкі, Л. Рахленкі ды Я. Семяжона немагчыма назваць крыніцы, якія б захавалі і перадалі атмасферу творчай дзейнасці, непаўторныя характары і проста «як гэта было» на пачатку дзейнасці Першага і Другога БДТ, трупы У. Галубка, трамаўцаў, піянераў беларускага тэатра для дзяцей.

Удвая радасна сустракаць звесткі пра любімых мастакоў, калі яны паведамляюцца чалавекам, які сустракаўся з такімі мастакамі не ў паўсядзённых абставінах і адкрываў у іх нешта, да чаго калегі прызвычаіліся і не лічылі арыгінальным. У кнізе нарысаў Уладзіміра Піменава «Жыццё і сцэна» — дваццаць чатыры тэатральных партрэты. Тут і вядомыя вахтангаўцы, і М. Акімаў з М. Чаркасавым, і Г. Юра з М. Крушальніцкім, і дзеячы рускай тэатральнай правінцыі. Сам аўтар ва ўступе вызначае жанр кнігі як «нейкі сплаў мемуараў з тэатразнаўствам, строгай факталогіі, жывых назіранняў і псіхалагічнага аналізу». Цікава! Да таго ж на вокладцы сярод імёнаў «герояў» нарысаў мы сустракаем тры беларускія — К. Саннікава, Б. Платонава, і Г. Глебава.

Шчыра скажам, што і сам У. Піменаў адкрыта прызнае: сустрэчы з усімі трыма купалаўцамі ў яго былі даволі рэдкія і нават выпадковыя. Магчыма, таму ў напісаным пра іх адчуваеш «беглость пера» мемуарыста. Гаворыцца пра рэжысёра К. Саннікава і артыстаў Б. Платонава і Г. Глебава празмерна агульна. Пераважаюць службовыя характарыстыкі.

**«Ён быў адным з прапагандыстаў не толькі беларускай, але і ўсёй шматнацыянальнай савецкай драматургіі, вельмі любіў працаваць з маладымі драматургамі... Ён многа ведаў і цікава расказваў пра беларускі тэатр... Ён працягваў традыцыі, закладзеныя заснавальнікамі беларускага тэатра Міровічам і Ждановічам...» Гэта гаворыцца пра К. Саннікава. Усё правільна. Але такія звесткі маюцца ва ўсіх выданнях пра сучасны беларускі тэатр, яны энцыклапедычныя.**

Зразумела, ад мемуарыста, які меў асабісты кантакт з рэжысёрам, бачыў яго спектаклі і назіраў за тым, як у садружнасці з тым жа А. Макаёнкам гэты рэжысёр працаваў над п'есамі, чакаеш нечага большага. Але, паведаміўшы пра тое, што ў рэспубліцы былі праціўнікі вострa сатырычнай камедыі «Выбачайце, калі ласка!» (У. Піменаў спасылаецца на «аднаго з работнікаў органаў культуры ў Мінску»), што яна прабіла шлях на сцэну ў нас пасля таго, як яе апрабіраваў друк і тэатр Масквы, аўтар кнігі толькі наблізіўся да характарыстыкі няўрымслівага «шукальніка талентаў» К. Саннікава. «Сакрэты» ж яго творчых сувязей з маладымі драматургамі, якіх ён выводзіў на сцэну надзвычай умела і тактоўна, так і застаюцца «сакрэтамі». А хочацца даведацца — чым і як памагаў такі мастак пісьменніку знаходзіць сябе ў жанры драматычнай літаратуры!

**Ці ж дастаткова нам прачытаць даведку аб тым, што «вядомы беларускі пісьменнік К. Губарэвіч і пры сустрэчах, і ў пісьмах да мяне (я быў перакладчыкам яго п'есы «На крутым павароце») адзначаў вялікую творчую дапамогу, якую ён атрымаў ад К. Саннікава». Рэгістрацыя факта. Істотнага. Цікавага. Ды затое абяцанага «сплаву мемуараў і тэатразнаўства» ў такіх агульных разважаннях адчуць немагчыма.**

Або яшчэ прыклад. Аўтар кнігі пералічвае найбольш значныя сцэнічныя вобразы, створаныя Б. Платонавым: Пеця ў «Апошніх» Горкага, Быхоўскі ў «Паўлінцы», генерал Агнёў у «Фронце» А. Карнейчука і (цытую тэкст) «красный партийный работник Ромодин» у спектаклі «Крылы» таго ж А. Карнейчука. Далей У. Піменаў заўважае: «І, нарэшце, герой-партызан у «Канстанціне Заслонаве». Як быццам, з факталогіяй тут усё ў парадку. А падумаем. Па-першае, не «Быхоўскі», а «Быкоўскі». Па-другое, імя героя п'есы «Крылы» гучыць некалькі інакш таксама—«Рамадан» (па-руску — «Ромодан»), і ён не «красный партийный работник», а сакратар абкома партыі 50-х гадоў. Далей. З пераліку роляў і інтанацыі фразы «і, нарэшце...» можна зразумець усё так, нібы Б. Платонаў іграў Заслонава пасля таго, як стварыў вобраз Рамадана. Між тым, «Канстанцін Заслонаў» — спектакль 1947 года, а «Крылы» — 1955. Да таго ж, у п'есе Заслонаў паказаны героем падпольнага руху, напярэдадні пераходу ў партызанскі лагер...

Дробязі? Магчыма. Але памылкі ў фактаграфіі і даволі схематычныя накіды жывых рысаў для партрэтных характарыстык К. Саннікава, Б. Платонава і Г. Глебава расчароўваюць чытача, які спадзяецца ў мемуарных нарысах адкрыць для сябе нешта нязведанае. І прыкра, калі такім «нязведаным» трэба называць звычайныя памылкі, парушэнне той «факталогіі», без якой мемуарыст не можа абысціся наогул.

**А тут раптам даведваешся, скажам, што «ў 1961 годзе Макаёнак і Саннікаў зноў выступаюць у творчай садружнасці як аўтары п'есы і спектакля «Лявоніха на арбіце». Пачакайце, «Лявоніху» ж ставіў не К. Саннікаў, а рэжысёр Б. Эрын! Каб даведацца пра гэта, дастаткова прачытаць афішу або праграмку спектакля, які і дасюль ідзе на купалаўскай сцэне. І потым — што за фармулёўка: «выступаюць... як аўтары»? Можа аўтар кнігі ведае, што да таго, як пастаноўшчыкам камедыі быў прызначаны Б. Эрын, з драматургам сапраўды па-рэжысёрску штосьці абмяркоўваў, даваў парады і кансультаваў К. Саннікаў, але пра гэта і трэба было напісаць.**

Дзве старонкі пра Г. Глебава — гэта зноў жа толькі агульная характарыстыка акцёра. Нічога новага ў параўнанні з нарысамі С. Дунінай і У. Стэльмаха, якія былі выдадзены ў Маскве ў 1949 і ў Мінску ў 1954 гадах, чытач з мемуарных нататак У. Піменава не атрымлівае. Больш таго, аднойчы Глеб Паўлавіч сказаў (а ён гэта гаварыў усім інтэрв'юерам), што «не ведае», як у яго атрымліваецца сцэнічны вобраз героя ў класічным і сучасным рэпертуары. Чакаеш, што аўтар кнігі якраз і пакажа працэс шуканняў артыста, якога ён бачыў «у жыцці і на сцэне» і імкнуўся разгадаць прыроду і псіхалогію творчасці.

Замест гэтага мы чытаем спасылку на словы Г. Глебава аб тым, што ў ролі старшыні калгаса Гарошкі ў камедыі «Выбачайце, калі ласка!» хацеў «...перадаць як бы сучасныя рысы класічнага вобраза Акакія Акакіевіча з «Шынялю». Такія заўвагі-прызнанні акцёра наўрад ці правільна пакідаць без тэатразнаўчага аналізу-каментарыя. У кнізе У. Піменава каментарыя і няма.

**Застаецца ў памяці такая дэталь. Аднойчы аўтар кнігі разам з Макаёнкам і Кучарам завіталі ў госці да Б. Платонава. І згубілі ключ ад аўтамашыны Кучара. Шукалі яго, шукалі і, нарэшце, знайшоўшы, узрадаваліся, што могуць паехаць... Няёмка атрымалася, прызнаецца У. Піменаў: спяшаліся пакінуць гаспадара, а той быў хворы...**

ДАВОДЗІЦЦА гаварыць аўтару кнігі горкую праўду — у трох нарысах пра дзеячоў беларускага савецкага тэатра ён абмежаваў сябе даволі сціплай задачай: апублікаваць тое, што было ім калісьці мімаходзь занатавана ў часе кароткіх сустрэч. Больш грунтоўнымі выглядаюць яго нарысы пра іншых дзеячоў, там, дзе У. Піменаў меў багаты на факты і асабістыя ўражанні жыццёвы матэрыял. Таму з кнігі «Жыццё і сцэна» чытач нашай рэспубліцы ўспрыме нешта карыснае для сябе не там, дзе гаворка ідзе пра знаёмыя і родныя нам артыстычныя натуры.

**К. КАЛЯДКА.**

У. Піменаў. «Жизнь и сцена». Нарысы аб дзеячах савецкага тэатра. Выдавецтва «Искусство». Масква. 1971.

М. ЗАБОРАЎ

# МОДА І ПРЫГАЖОСЦЬ

ЦІ МОЖАМ МЫ ўздзейнічаць на працэсы развіцця моды? Пытанне нараджае пытанне: а ці трэба ўздзейнічаць?

Адказ на другое пытанне напрошваецца сам, калі прыгадаць, што мода, звязаная па сутнасці сваёй з прыгажосцю, прыводзіць, бывае, нярэдка, да зусім процілеглага прыгажосці. Не сакрэт жа, што моднікі так часта збіваюцца на пошласць, безгустоўнасць. Праўда, у гэтым часцей за ўсё вінаватая не мода: многім, хто гоніцца за модай, проста бракуе эстэтычнага густу! У той жа час, як казаў яшчэ Мантэск'е, мода псуе норавы, але фарміруе густ. У самім змесце моды ёсць супярэчнасць, якая спараджае адмоўныя яе праявы.

Мабыць, яны карэняцца і ў стыхійнасці ўзнікнення моды.

Значыцца, уздзейнічаць трэба. Каб неяк нейтралізаваць адмоўныя праявы. А для гэтага трэба акрэслена ўяўляць сабе сам механізм узнікнення моды. Бо веданне гэтага механізму не толькі дасць магчымасць дакладней працаваць хоць бы тым жа атэлье мод, але і прыадкрые магчымасць больш эфектыўнага задавальнення чалавечых патрэб, у розных галінах побыту, паколькі мода — надзвычай адчувальны барометр пэўных грамадскіх настрояў, імкненняў. Карацей кажучы, мы не толькі можам, але павінны ўздзейнічаць на працэсы развіцця моды. А каб уздзейнічаць на з'яву — яе трэба вывучаць.

ШТО СЁННЯ ў модзе?.. Мала хто зусім раўнадушны да гэтага пытання. А адказ можна атрымаць, прагледзеўшы часопісы мод: маскоўскі або ленінградскі, рыжскі або талінскі... Далёка не кожнай галіне культуры аддаюць увагу так многа спецыяльных часопісаў, альбомаў, праспектаў, багата ілюстраваных фатографамі і мастакамі, надрукаваных лепшымі паліграфічнымі сродкамі на лепшай паперы.

Для вялізнай арміі людзей, занятых вытворчасцю адзення і іншых тавараў народнага ўжытку, мода — прадмет прафесійнага інтарэсу. І калі, з нейкай там нагоды, гэтыя сур'ёзныя людзі пастаўяцца да моды несур'ёзна, на складах з'явяцца залежы непрададзеных тавараў — страты для народнай гаспадаркі.

Заўважана, што часцей за ўсё ад пакупкі адмаўляюцца таму, што тую або іншую рэч успрымаюць «нямоднай», «непрыгожай».

Сувязь уяўленняў аб тым, што прыгожае, а што непрыгожае ў модах звярнула на сябе ўвагу вельмі даўно. Гэта «класічная» мішэнь для гумарыстаў і сатырыкаў.

У сярэднявеччы, у эпоху Асветы, у наш час на долю моды выпадала і выпадае нямала з'едлівай іроніі, повадам да якой — звычайна самыя неверагодныя яе змяненні, так сказаць — скачкі эстэтычных захапленняў.

Карысна, мабыць, паразважаць аб прычынах настолькі дзівоснай улады моды над эстэтычнымі густамі. Высвятленне гэтых прычын — не без карысці для разумення як моды, так і прыгажосці.

Перш за ўсё звернем увагу на тое, што мода, якую можна акрэсліць азначэннем — «кароткатэрміновая форма масавых паводзін», не можа мысліцца па-за калектывам. Яна — дзіця чалавечых узаемаадносін. Не сакрэт, што чалавек далёка не заўсёды прызнаецца сабе ў тым, што апранаецца ён модна ў асноўным (калі не выключна) дзеля таго, каб падабацца іншым. Падабацца — значыцца, выклікаць да сябе пажаданае, спрыяльнае стаўленне акружаючых.

Знамянальна, што, становячыся для нас сродкам і сімвалам гэтых пажаданых адносін, рэчы пачынаюць здавацца нам прыгожымі. Адсюль — натуральная думка пра камунікатыўную прыроду самой прыгажосці. Бо, па сутнасці, эстэтычныя каштоўнасці існуюць, як своесаблівае адлюстраванне і стымул менавіта духоўнага яднання людзей. (Як вядома, Маркс гаварыў пра тое, што чалавек у сваёй сутнасці «ёсць сукупнасць усіх грамадскіх адносін»).



ПАМЯТАЮЧЫ аб камунікатыўнай прыродзе прыгажосці, лягчэй зразумець і яе арганічную сувязь з модаю, і сувязь моды з мастацтвам.

Леў Талстой пісаў: «Мастацтва ёсць дзейнасць чалавечая, якая заключаецца ў тым, што адзін чалавек свядома вядомымі знешнімі знакамі перадае іншым пачуцці, якія ён адчувае, а іншыя людзі заражаюцца гэтымі пачуццямі і перажываюць іх».

Гаворачы пра моду, варта падкрэсліць: бадай, ніхто з даследчыкаў моды не прамінуў магчымасці ўказаць на такі яе істотны момант, як перайманне. Хаця, часам, пра перайманне прынята казаць і думаць, як пра нешта, вартае асуджэння. Нярэдка перайманне сапраўды заслугоўвае такіх адносін, аднак нельга не заўважаць і каштоўных яго бакоў.

Яшчэ на перасвядомых стадыях чалавечага развіцця пераймальны рэфлекс стаў неацэнным сродкам навучання, выхавання, далучэння індывіда да вопыту суродзічаў. І цяпер спрадвечнае пачуццё пераймання ў лепшых сваіх праявах арыентуе на «ўзорнае», «прыкладнае».

Адсюль, думаецца, не так ужо далёка да разумення сутнасці моды: перайманне тут набывае масавы характар, але застаецца сродкам арыентацыі ў свеце каштоўнасцей.

У першабытныя часы, напрыклад, вельмі цанілася мастацтва паляўнічага і «ў модзе» былі пацеркі з зубоў драпежнікаў. Мацней-

С. СЕРГАЧОЎ

# ...СПЫНІЦЦА

ВЯЛІКІ ГОРАД—гэта дынамічны комплекс у працэсе няспынных змен. І ў нашым Мінску вырастаюць новыя кварталы, пракладваюцца шырокія магістралі, з'яўляюцца новыя бульвары і паркі. Падобна жывому арганізму, горад пастаянна абнаўляецца.

Фактар часу ўваходзіць у фарманне эстэтычных уласцівасцей горада. Элементы мінулага, пастаўленыя на службу новай арганізацыйнай сістэме, пераасэнсаваныя і пераацэненыя, дазваляюць рэальна адчуць час як «чацвёртае вымярэнне» горада. Гэта чацвёртае вымярэнне, якое звязвае гістарычныя пласты, у многім вызначае індывідуальную непаўторнасць горада, яго своеасаблівасць. Гісторыя праз свае рэчавыя сляды — будынкі, манументы раскрываецца для людзей больш адчувальна і рэальна, чым у літаратурных творах і творах выяўленчага мастацтва.

Помнікі архітэктуры Мінска засяроджаны на невялікай тэрыторыі. Плошча Свабоды і сумежныя вуліцы ўяўляюць сабой згустак гісторыка-архітэктурнага мінулага горада. І пры рэканструкцыі цэнтральнай часткі, пачатай у апошнія гады, варта звярнуць павышаную ўвагу на гэты раён. Тут трэба старанна разглядаць і абмяркоўваць пытанні зносу або перабудовы старых будынкаў, імкнуцца не прымаць імгненных рашэнняў.

Мінск, які перажыў за сваю шматвяковую гісторыю многа войнаў, разбурэнняў, пажараў, захаваў нямала цікавых помнікаў архітэктуры, якія ўвасабляюць у сабе гісторыю народа. І мы павінны захаваць іх і беражліва перадаць будучым пакаленням, як узоры творчасці нашага народа, як сведкаў жыцця і барацьбы нашых продкаў.

САМЫ СТАРЫ будынак Мінска, пабудаваны ў 1611 годзе,— Петрапаўлаўская царква. Пазней, па жаданні Екацярыны II яе перайменавалі ў Екацярынскую саборную царкву. А ў народзе яна была вядома пад назвай — «жоўтая царква», бо сцены яе былі афарбаваныя охрай. Пачатак XVII стагоддзя — час цяжкі для Мінска і ўсяго беларускага народа. Гвалтоўнае насаджэнне каталіцызму, польска-літоўска-шведская інтэрвенцыя супраць Рускай дзяржавы, бяспраўнае становішча мясцовых жыхароў выклікалі пратэст і рашучы адпор у насельніцтва. І вось у гэты смутны час у Мінску ўзводзіцца гэты праваслаўны храм.

У 1613 годзе пры царкве было створана брацтва (брацтвы — арганізацыі, якія ставілі перад сабой не толькі рэлігійныя, але і шырокія грамадскія задачы). Петрапаўлаўскае брацтва было адно з мацнейшых у Беларусі. Пры «брацтве» працавалі школа, друкарня, адзін з першых у Мінску шпіталяў.

«Жоўтая» царква ўяўляе сабой трохнефную базіліку з моцна выступаючай гранёнай апсідай. Бакавыя нефы значна ніжэйшыя за цэнтральны і выдзяляюцца самастойнымі аб'ёмамі. Неспакойны час наклаў адбітак на архітэктуру тых гадоў. Вось і тут мы бачым масіўныя сцены, скупыя на дэкаратыўныя ўпрыгожанні, вокны, высока ўзнятыя над зямлёй, вежы на вуглах галоўнага фасада. Будынак некалькі разоў перабудоўваўся, рамантаваўся, што моцна змяніла яго старажытны выгляд. Раней аконныя праёмы, асабліва ў вежах, былі невялікіх памераў, што яшчэ больш падкрэслівала крапасны выгляд збудавання. Усё дэкаратыўнае ўбранне зведзена да шырокіх плоскіх пілястраў і тонкіх гарызантальных паяскоў. На бакавых фасадах будаўнікі ўдала ўжылі зблiжаныя, размешчаныя парамі вокны — прыём наогул не складаны, але ён намнога павысіў мастацкую выразнасць будынка.

Архітэктары сталіцы, якія працуюць над цэнтрам Мінска, над забудовай Нямігі, лічацца з гэтым цікавым збудаваннем. Будынак будзе захаваны, рэстаўраваны і арганічна ўключаны ў сучасную забудову.

Пасля заключэння ў 1596 годзе Брэсцкай уніі, па якой, па сутнасці, была ўзаконена каталіцкая агрэсія, у Беларусь хлынулі ордэны каталіцкай царквы. Феадалы Рэчы Паспалітай спрабавалі з іх дапамогай скаваць барацьбу народа за сваё вызваленне, за ўз'яднанне з братнім рускім народам. Мінчане, нягледзячы на жорсткія рэпрэсіі, адказвалі ўпорным супраціўленнем. Першая палова XVII стагоддзя суправаджалася частымі антыфеадальнымі выступленнямі, якія часта выліваліся ва ўзброеную барацьбу.

На шчодрыя ахвяраванні магнатаў, якія перайшлі ў каталіцтва, будуюцца касцёлы і манастыры. Прычым ім адводзяцца, як правіла, лепшыя месцы ў горадзе — на ажыўленых вуліцах, — плошчах, на пануючых вышынях. Сваімі памерамі, веліччу і багаццем яны павінны былі прапагандаваць сілу і веліч каталіцкай царквы. Некалькі збудаванняў той пары захавалася ў нашым горадзе.

Адным з першых быў мужчынскі Бернардзінсі манастыр. «Стараста Краснасельскі» Ян Кянсовіч у 1624 годзе ці, паводле іншых дадзеных, у 1628 падарыў бернардзінам зямлю і пабудаваў драўляны касцёл і манастыр. Але праз дзесяць гадоў, на іх месцы былі ўжо ўзведзены каменныя будынкі. І ў 1656 годзе рускі ваявода ў Мінску В. Якаўлеў пісаў аб храме: «А касцёл... добре, велик, каменной и высок».

Храм мае выгляд вялікай трохнефнай базілікі з высокай прадаўгаватай апсідай з усходу. З 1921 года ў будынку размяшчаецца архіў і ў сярэдзіне ён, натуральна, цалкам перароблены. Але знешняе аблічча будынка захавалася без істотных змен. Знешняя апрацоўка нефаў спакойная і суровая. Адзінае ўпрыгожанне — шырокія белыя пілястры па жоўтых палях сцен ды арачныя праёмы акон. Уся ўвага будаўнікоў была звернута на аддзелку галоўнага фасада. Спакойны, маляўнічы выгін сцяны, падзел яе пілястрамі са своеасаблівымі капітэлямі, упрыгожанне рознымі нішамі і карнізамі надаюць храму мяккасць і пластычнасць. Магчыма, што раней галоўны фасад завяршаўся высокім фігурным франтонам, як гэта звычайна рабілі ў бязвежавых храмах таго часу. Гэтага патрабуе і падкрэсленае вертыкальнае чляненне галоўнага фасада.

Манастырскія будынкі вышынёй у два-тры паверхі прыбудаваны да храма з паўночнага боку ў выглядзе замкнутага комплексу з унутраным дваром, гэта звычайная схема каталіцкага манастыра тых часоў. Пазней, з боку цяперашняй плошчы Свабоды манастыр быў забудаваны гандлёвымі радамі (калісьці мінчане называлі іх «вілянчукі»). Гэта надавала манастырскаму комплексу той замкнуты «крапасны» выгляд, такі характэрны гарадскім збудаванням сярэдніх вякоў.

Вядома, увесь гэты комплекс, пры ўсёй яго стройнасці, нават прыгажосці, не можа лічыцца выдатным архітэктурным творам. Але тая сур'ёзнасць і паслядоўнасць, з якой ён зроблены, адводзяць яму віднае месца ў радзе помнікаў ранняга барока ў Беларусі.

АДНЫМ З НАЙБОЛЬШ вядомых мінчанам архітэктурных помнікаў з'яўляецца Кафедральны сабор (былы касцёл жаночага Бернардзінскага манастыра), размешчаны на плошчы Свабоды. Будынак быў узведзены ў 1642 годзе на адным з самых высокіх пунктаў горада і яго востраверхія маляўнічыя вежы да гэтага часу займаюць важнае месца ў гарадскім сілуэце.

Па суадносінах сваіх асноўных аб'ёмаў і па плане (трохнефная базіліка) ён аналагічны іншым помнікам архітэктуры Мінска. Бадай толькі нефы сталі больш стройныя і набылі лёгкасць, не страціўшы пры гэтым сваёй манументальнасці. Гэты храм двухвежавы, і менавіта на гэтых вежах сабрана ўсё багацце вонкавай аддзелкі. Такі прыём — спалучэнне простых аб'ёмаў і форм з жывапіснасцю сілуэта, характэрны для ранняга беларускага барока.

Сярэдні неф на галоўным фасадзе завяршаецца высокім фігурным франтонам, які злучаецца з вежамі выгнутымі сценамі. Пілястры, якія ўпрыгожваюць вуглы вежаў, кожны раз разбіваюцца выгнутымі лініямі карнізаў, якімі заканчваецца кожны ярус. Скразныя праёмы верхніх ярусаў надаюць вежам празрыстасць і лёгкасць, а, пачынаючы з шостага яруса, прамыя лініі знікаюць зусім і вежы імкліва ўзлятаюць уверх.

Трохпавярховыя карпусы былога манастыра прымыкаюць да паўночнага боку сабора і ўтвараюць закрыты

шыя насілі іх на грудзях, як лепшае ўпрыгожанне, як прадмет зайздрасці.

Пазней, як вядома, паляўнічыя трафеі выйшлі з моды. Адзнакай сілы і працвітання становяцца сімвалы багацця. І пацеркі робяцца з каштоўных камянёў.

А ў пачатку нашага стагоддзя з'явіліся першыя небаскробы. Ва ўспрыняцці многіх людзей яны сталі сімваламі прагрэсу. Ступеньчатая іх форма распаўсюдзілася на рэчы, дзе яна часцей за ўсё была непатрэбная (шафы, радыёпрыёмнікі, халадзільнікі), увайшла ў моду.

Падобных прыкладаў можна прывесці шмат. І ўсе яны недвухсэнсоўна нагадваюць, што мода сапраўды арыентуе на нейкія каштоўнасці, г. зн. з'яўляецца формай арыентацыі ў свеце каштоўнасцей.

НАГАДАЕМ ТАКІ істотны яе аспект: калі прыгажосць сапраўды можна разглядаць як камунікацыю, увасобленую ў нейкай матэрыяльнай форме, дык мода паўстане як самыя зносіны, як адна з іх разнавіднасцей. Мода — гэта таксама стан густаў, г. зн., у адрозненне ад такіх ідэалагічных форм, як, напрыклад, мастацтва, рэлігія, філасофія, мода — фенамен сацыяльна-псіхалагічны.

Неабходна адзначыць і тое, што мода ёсць сацыяльна-псіхалагічная арыентацыя менавіта на каштоўнасці жыцця, **якія змяняюцца.** У статычным грамадстве, якое не развіваецца, мода спалучаецца са звычаем. Так, у народаў, якія захавалі да нашых дзён першабытнаабшчынны лад, уяўленні аб прыгажосці надзвычай кансерватыўныя. Яны ў вялікай ступені вызначаюцца менавіта тым, што з'яўляюцца ўстойлівым, што ўхвалена і асвечана некалі звычаем. (Калі мода толькі адзін з відаў чалавечай камунікацыі, а, значыцца, не адзіны вызначальнік-паказчык эстэтычных густаў, то магчымы і канфлікты паміж прыгажосцю і модай. Але гэта тэма для асобнай размовы.

У АПОШНІ час нярэдка звяртаюць увагу на адзначаную яшчэ Бальзакам акалічнасць: мода не абмяжоўваецца сферай касцюма. Пры гэтым, аднак, упускаецца з-пад увагі, што мода, якая дзейнічае ў розных галінах быту, «дабіваецца» неаднолькавых мэт. Так, напрыклад, калі гаворым пра моду на медыцынскія прэпараты або на пэўныя тэхнічныя прыёмы, дык тут пераййманне, далучэнне да іншых — толькі сродак дасягнення **утылітарнай** каштоўнасці. Калі ж пераймаем новыя формы адзення, дык такое далучэнне да нейкага кола людзей (усё тая ж камунікацыя)— ужо не толькі і не так сродак, як мэта.

Скуранка і фрэнч, чырвоная касынка і шлем былі папулярныя ў рэвалюцыйныя гады не таму, што немагчыма было прыдумаць іншыя не менш утылітарныя рэчы, а менавіта як знак, сімвал далучэння чалавека да рэвалюцыйнай масы **і яе ідэалаў.**

Або, скажам, у гады пасля другой сусветнай вайны — славутая «бомба Дыёра», а прасцей кажучы — «сонцападобная спадніца» і адмысловы ліф, які аблягаў фігуру, быццам вярнулі жанчыне жаноцкасць. Яны прыйшліся да густу мільёнам не таму, што былі больш утылітарныя, чым, скажам, адзенне ваенных гадоў, а хутчэй наадварот. «Бомба Дыёра» сімвалізавала ідэалы мірнага часу. А калі нешта здольнае сімвалізаваць ідэалы многіх — дык падобны сімвал гэтыя многія схільныя эстэтызаваць.

Калі перайманне — характэрны для моды спосаб далучэння адной групы людзей да другой, а, значыцца, і да пэўных утылітарных і духоўных каштоўнасцей, — натуральна спытацца: як жа першапачаткова ўзнікае новая мода і хто яе заканадаўцы?

ДУМАЕЦЦА, і прыведзеныя тэарэтычныя вывады паказваюць: жыццё, якое бесперапынна развіваецца, увесь час так або інакш мяняе рэальную каштоўнасць рэчаў, чалавечых якасцей, адносін. Мода, думаецца, і ўяўляе сабой адлюстраванне ў грамадскай псіхалогіі такіх вось змяненняў. Карацей кажучы: рух жыцця,—рух каштоўнасцей, а мода адлюстроўвае гэты рух.

Група людзей (або нават асобны чалавек), якія ў найбольшай меры валодаюць каштоўнасцямі, становіцца ўзорам для пераймання. Гэта — лідэры моды. Інакш кажучы, можна сцвярджаць: мода бачыць каштоўнасці вачыма сваіх аўтарытэтаў.

Трэба зазначыць, псіхалогія грамадства вельмі чула рэагуе на тыя або іншыя хістанні каштоўнасцей; вось ад таго модзе так уласцівыя рухомасць, імпульсіўнасць, схільнасць да перабольшання (бо ўсё гэта — характэрныя рысы сацыяльна-псіхалагічных рэакцый).

У папулярнай літаратуры пра моду нямала прыводзіцца прыкладаў таго, як пэўная кур'ёзная выпадковасць у адзенні, скажам, караля або каралевы стварала моду то на высокія абцасы, то на пышныя фіжмы крыналіна, то на асаблівыя гальштукі, манжэты штаноў і г. д. і да т. п. Усе падобныя прыклады не пярэчаць нашым разважанням. Бо ў эпоху абсалютызму, да якой пераважна і адносяцца падобныя гісторыі, вышэй за ўсё цаніліся багацце і саслоўныя прывілеі, звязаная з імі раскоша. Менавіта таму кароль (або хто-небудзь з блізкіх да яго) «па сумяшчальніцтве» мог стаць і «каралём моды».

Цяпер людзей прыцягваюць іншыя каштоўнасці. Больш натуральныя. Сапраўдныя. І нешта іншае апасродкавана фарміруе моду, а не багацце і да т. п. Краевугольным каменем цяпер — духоўныя і фізічныя вартасці чалавека. І лідэрамі моды ўсё часцей становяцца тыя, чыё багацце — гармонія юнацтва, сацыяльная актыўнасць.

Праўда, і сёння, бывае, узнікаюць фальшывыя «каралі» і «каралевы», скажам, тыпу якой-небудзь кіназоркі або праслаўленага шансанье.

Але за кім бы мода ні прызнавала заканадаўчую ўладу, разумець яе, думаецца, варта так, як разумеў, напрыклад, Сент-Экзюперы: гаворка ідзе пра таго фантастычнага караля з фантастычнай планеткі, які загадвае сонцу зайсці менавіта тады, калі яно і павінна зайсці, узысці—калі яму патрэбна ўзыходзіць, загадвае зоркам запальвацца тады, калі яны запаліліся і зіхацяць...

Таму мастак-мадэльер не можа загадаць модзе — «быць або не быць». Яго задача — улавіць тое, што наспела ў самім жыцці. Увасобіць гэты рух жыцця ў дасканалай вобразнай і функцыянальнай структуры рэчы. Значыцца, мастак-мадэльер — не так творца моды, як яе жрэц, служыцель.

З'ЯЎЛЯЮЧЫСЯ сацыяльна-псіхалагічным адлюстраваннем сапраўднага руху каштоўнасцей, мода — вельмі дзейсны інструмент выяўлення гэтых каштоўнасцей тады, калі яны ідэалагічна яшчэ не засвоены. І як да інструмента далучэнне вялікіх мас людзей да пэўных каштоўнасцей, мы не можам ставіцца да моды раўнадушна.

Неабходна ўсяляк засвойваць моду як на практыцы, так і ў тэорыі. Каб уздзейнічаць на працэсы яе развіцця ў патрэбным для грамадства кірунку.

# З АСАЛОДАЙ

ўнутраны двор. Няма ніякіх упрыгожанняў, толькі нескладаны карніз, які вянчае простыя і спакойныя плоскасці сцен з цёмнымі плямамі акон.

У свой час Кафедральны сабор быў адным з найбольш значных і эфектных архітэктурных масіваў горада, і цяпер ён разам з комплексам Бернардзінскага манастыра, уяўляе цікавы і добра захаваны ансамбль сярэдневяковага Мінска.

І апошні з раду архітэктурных помнікаў, пакінутых эпохай барока. Кафедральны сабор (раней Езуіцкі касцёл) быў закладзены ў 1700 годзе на шчодрыя ахвяраванні магнатаў. Пацярпеўшы ў час апошняй вайны будынак быў перабудаваны, і цяпер у ім размяшчаецца ДСТ «Спартак» (на плошчы Свабоды). Перабудова больш за ўсё закранула галоўны фасад, інтэр'ер і амаль не кранула алтарную частку, якая ідзе ўглыб квартала.

Суседнія будынкі не давалі магчымасці агледзець яго ўвесь цалкам. Фасады не мелі паміж сабой агульнай сувязі, а гэта вымушала архітэктара вырашаць больш багата і дваровыя фасады. Так, алтарная частка значна ніжэй за цэнтральны неф, паўкруглая ў плане і завяршаецца фігурным франтонам. А бакавыя нефы заканчваюцца маленькімі, крытымі купаламі, маленькімі вежамі. Прычым, паўночная вежа — двухярусная, паўднёвая — з адным ярусам і абедзве маюць яўна незакончаны выгляд. Відавочна архітэктар першапачаткова задумаў чатырохвежавы храм. Такія храмы ў перыяд барока сустракаюцца вельмі рэдка ў еўрапейскай архітэктуры. На тэрыторыі Беларусі вядома толькі адна такая перабудова — храм кармелітаў у Глыбокім (на Віцебшчыне). Але ўзвядзенне храма ў Мінску расцягнулася па нейкіх прычынах на даволі значны тэрмін. Так вежы галоўнага фасада былі закончаны толькі ў 1730 годзе. І зусім магчыма, што за гэты час ад заканчэння яшчэ дзвюх веж адмовіліся. Так, гэты цікавы і своеасаблівы помнік барочнай архітэктуры застаўся недабудаваны. І ўсё ж, вызвалены ад пазнейшых напластаванняў, прыведзены ў парадак, ён можа паслужыць добрай асновай для стварэння яшчэ аднаго цікавага кутка Мінска.

ДА ГЭТАГА ЧАСУ мы гаварылі аб збудаваннях значных па памерах, якія вызначаюцца сваімі мастацкімі вартасцямі. Але для сапраўднай прыгажосці і багацця аблічча горада маюць значэнне комплексы і радавых будынкаў, тых, якія нібы акампаніруюць, утвараюць аптымальна маштабнае і архітэктурнае асяроддзе для ўжо прызнаных помнікаў мінулага. Такія комплексы жылых дамоў па вуліцах Астроўскага, Інтэрнацыянальнай, Рэвалюцыйнай, Бакуніна і інш. Сама планіроўка, шырыня і канфігурацыя вуліц з'яўляецца цікавым помнікам горадабудаўнічай культуры. На вялікі жаль аб будучым гэтых збудаванняў можна пакуль сказаць толькі тое, што амаль усе іх плануецца знесці.

А можа варта падумаць аб тым, як для цэласнасці гістарычнага ансамбля Мінска захаваць у патрэбнай меры і радавыя збудаванні, якія не маюць самастойнай гісторыка-архітэктурнай каштоўнасці, але з'яўляюцца арганічнай часткай ансамбляў. Відаць, варта захаваць некаторыя старыя раёны або ўчасткі Мінска. Натуральна, пры рэканструкцыі гэтых раёнаў варта дабіцца такога іх уладкавання і абсталявання, якое адпавядала б сучаснаму ўзроўню жыцця.

Сярод гэтай фонавай забудовы Мінска найбольш цікавае — пабудаваны ў другой палове XVIII стагоддзя так званы «дом масонаў» (Музычны завулак, дом, 5). Такую назву ў народзе ён атрымаў таму, што ў канцы XVIII стагоддзя тут збіраліся члены масонскай ложы «Паўночны факел». Архітэктурнае рашэнне гэтага трохпавярховага будынка характэрна для ранняга класіцызму. На фасадах выдзяляюцца ліштвы акон з трохвугольнымі франтонамі, і аддзелка верхняга карніза, які вянчае сцены. У спалучэнні з іншымі помнікамі старажытнасці гэты будынак мае для Мінска вялікае гісторыка-архітэктурнае значэнне.

Цікавы і сядзібны дом гарадскога тыпу (Інтэрнацыянальная вуліца, 33-А, так званы «дом Ванковіча», канец XVIII ст.). Зараз будынак змяніўся як звонку, так і з сярэдзіны. Але па элементах фасадаў, якія захаваліся дагэтуль, па фатаграфіях можна ўзнавіць яго знешняе аблічча. Яшчэ зусім нядаўна будынак ажыўляўся ў цэнтры галоўнага фасада доўгай каланадай з драўляных калон. На іх змяшчаўся высокі трохвугольны франтон з прамавугольным акенцам у цэнтры і двума авальнымі па краях. Цікавы будынак і тым, што, як у аб'ёмнай пабудове, так і ў архітэктурным абліччы пераплятаюцца элементы розных стыляў — класіцызму, які пачаў уваходзіць у моду, і барока, які яшчэ ўтрымліваў свае пазіцыі. Адным са значных па сваіх памерах асабнякоў у тры паверхі, з дастаткова складаным планам і фасадам з'яўляецца добра захаваны будынак па вуліцы Інтэрнацыянальнай, 36 (пачатак XIX ст.). Пластычная апрацоўка фасадаў, яго некаторыя дэталі нагадваюць элементы барочнай архітэктуры, што ў тыя часы было ўжо даволі рэдкай з'явай.

Можна адзначыць яшчэ і невялікі двухпавярховы будынак пад нумарам 4 па вуліцы Герцэна, які адносіцца да першай трэці XIX ст. На першы погляд можа здацца дзіўным, што гэты домік мае такі шырокі, перакрыты аркай, уезд у двор. Але раней, калі фронт будынкаў уздоўж вуліцы быў суцэльны, кожны жылы дом меў свой праезд, прычым даволі шырокі, разлічаны на падводу або карэту.

НЯМАЛА І ІНШЫХ радавых будынкаў, якія заслугоўваюць увагі ў гістарычным, архітэктурным і этнаграфічным плане. Цікавыя разнастайныя дэкаратыўныя дэталі, драўляная разьба карнізаў і аконных ліштваў, кованае жалеза агарож і балконаў. У фарміраванні мастацкага аблічча старога цэнтра Мінска ўдзельнічаюць і складаны рэльеф мясцовасці, і захаваная зеляніна. І беражлівае стаўленне да ўсіх гэтых кампанентаў дапаможа захаваць характар і каларыт гістарычна складзенай забудовы, тое непаўторнае, тое своеасаблівае, што вызначае Мінск сярод іншых гарадоў.

Але трэба адзначыць, што эстэтычныя якасці архітэктуры цалкам раскрываюцца толькі тады, калі яна ўключаецца ў агульную плынь жыцця. Па сваёй прыродзе архітэктура не можа стаць толькі аб'ектам для паказу. І праблема захавання мастацкай выразнасці помнікаў архітэктуры мінулага пачынаецца з пошуку іх найлепшага выкарыстання. Канечне, пытанне аб выкарыстанні павінна вырашацца ў кожным выпадку асобна, з улікам спецыфічных асаблівасцей будынка. А само выкарыстанне не павінна наносіць помнікам архітэктуры шкоды.

Заслугоўвае ўвагі выкарыстанне былога касцёла. Зараз вядуцца работы па пераробцы яго ў Дом кіно. Хоць гэты будынак узведзены ў пачатку нашага стагоддзя і надзелены рысамі эклектыкі, уласцівай архітэктуры капіталізму, тым не менш, як узор высокага майстэрства будаўнікоў, як узор высокай культуры выканання будаўнічых работ, ён уяўляе сабой несумненную цікавасць. Мы прывыклі да гэтага будынка, да яго высокіх вежаў, якія трывала ўвайшлі ў сілуэт горада. І тым больш прыемна, што хутка, атрымаўшы новыя функцыі, ён усёй сваёй сутнасцю ўключыцца ў наша жыццё. Нямала вядома ўдалых прыкладаў выкарыстання помнікаў архітэктуры для сучасных мэт у Маскве, Рызе, Вільнюсе і іншых гарадах краіны. Менавіта такімі і павінны быць адносіны да архітэктурнай спадчыны—не сузіральныя, а актыўныя, дзейсныя.

Старое трэба захаваць не толькі фізічна. Неабходна знайсці гармонію паміж старымі і новымі ансамблямі, выкарыстоўваць прыгажосць гістарычных фрагментаў горада, а не падаўляць яе. Гогаль гаварыў у свой час: «Прыгажосць ніколі не бывае такая яркая і відная як у кантрасце... Чым больш у горадзе помнікаў розных відаў дойлідства, тым ён цікавейшы, тым ён часцей прымушае аглядаць сябе, з асалодай спыняцца на кожным кроку».

ЦЭНТРАЛЬНУЮ ЧАСТКУ нашай сталіцы ў бліжэйшыя гады чакаюць значныя змены. І сярод сучасных, цудоўных будынкаў, якія з'явяцца тут, неабходна захаваць частку старога, гістарычна складзенага цэнтра. Ад падобнага суседства выйграе і новая архітэктура і старая. Яны не будуць канкурыраваць адна з адной, а наадварот, у сілу рэзкага кантрасту, маляўніча і праўдзіва дапоўняць адзін аднаго. Ад гэтага і Мінск і яго жыхары толькі выйграюць.

П. ДЗІМІТРОЎ-РУДАР

# АПАВЯДАННІ пра Георгія ДЗІМІТРОВА

Спаўняецца 90 гадоў з дня нараджэння выдатнага сына балгарскага народа Георгія Дзімітрова.

Пра яго жыццё, рэвалюцыйную дзейнасць створаны дзесяткі мастацкіх і дакументальных кніг. Апавяданні ж Пятра Дзімітрова-Рудара, якія летась гасцявалі ў нас у Беларусі, прываблівають тым, што напісаны яны пад асабістымі ўражаннямі пісьменніка ад сустрэч, гутарак з правадыром балгарскага народа ў першыя пасляваенныя гады.

Пераклады — з кнігі «Апавяданні пра Георгія Дзімітрова» (1971).

## САЛУНСКІ ГАНДЛЯР

Вясновым вечарам 1947 года ў невялікай сталовай палаца Враня сядзелі госці. Роза і Георгій Дзімітровы запрасілі нас на вячэру.

У канцы вячэры, калі падалі каву, я, заахвочаны добрым настроем гаспадара, папрасіў яго расказаць які-небудзь выпадак са свайго небяспечнага нелегальнага жыцця.

Заспеты знянацку маім пытаннем, Георгій Дзімітроў здзіўлена глянуў на мяне, абвёў позіркам астатніх гасцей, і калі ён зразумеў, што жаданне — агульнае, брыво яго запытальна прыўзнялося. Расказаць, але што? Ці адзін выпадак быў у яго жыцці.

Ён крыху памаўчаў. Пасля, абапёршыся локцямі на стол, узняў перад сабою рукі і сказаў:

— Нічога не зробіш, вы мае госці. А гасцям адмовіць нельга. Што ж, калі вам хочацца, я раскажу гісторыю з салунскім яўрэем...

Мы ўсе сталі дыханне.

Таварыш Дзімітроў дастаў люльку, дастаў тытунь — усё гэта паволі, відаць, збіраючыся з думкамі. Прыкурыў, разы са два пыхнуў дымам і пачаў расказваць:

— Тое, што вы пачуеце, здарылася ў Італіі... Я быў там па партыйных справах. Калі я ўжо рыхтаваўся пакінуць гэтую краіну, да мяне прыйшоў паліцэйскі і сказаў, што мяне выклікаюць у іх упраўленне высветліць нейкае пытанне.

І вось я ў кабінеце начальніка. Той дапытліва агледзеў мяне з ног да галавы, прапанаваў сесці і прытворна ветлівым тонам запытаў:

— Вы, шаноўны васпане, чужаземец, так?

— Так, я чужаземец,— адказаў я спакойна.

— Пакажыце, калі ласка, пашпарт...— Гм,— мармытаў ён з ухмылкай, нібы здзіўляючыся.— Пашпарт выдадзены вам у Грэцыі, а прозвішча ваша чамусьці не грэчаскае...

— Так, сапраўды. Але што тут дзіўнага? Пашпарт мне выдадзены ў Грэцыі, бо я грэчаскі падданы, а прозвішча не грэчаскае, таму што я не грэк, яўрэй — яўрэй з горада Салуна. Гандляр,— адпарыраваў я.

— Так, так... У гэтым, вядома, няма нічога дзіўнага,— усміхнуўся з прыкметнай іроніяй начальнік.

І ўсё з той жа прытворнай ветлівасцю ён пачаў тлумачыць, што ёсць распараджэнне, у адпаведнасці з якім усе чужаземцы, якія прыязджаюць у Італію, павінны запаўняць спецыяльную анкету. Затым прапанаваў зайсці ў суседні пакой да сакратара і зрабіць гэта.

Калі сакратар паказаў мне агромністы аркуш, я жахнуўся. Выявілася, трэба было адказаць на дзесяткі пытанняў: як завуць бацькоў, бабуль і дзядуляў, прабабак і прадзедаў, братоў і сясцёр, дзядзькоў і цётак, пляменнікаў і пляменніц—сваякоў аж да дзевятага калена. Уявіце становішча, у якое я трапіў — мне трэба было выдумаць і запісаць у адпаведныя графы каля сотні яўрэйскіх імёнаў. І не толькі выдумаць, але і добра запомніць іх — кансператыўны вопыт навучыў мяне помніць усё, што даводзілася пісаць у паліцыі — ад першага да апошняга слова!

Пакуль я разглядаў злашчасную анкету, галава паспешна шукала выйсця—што рабіць. Як мне выбрацца з гэтай хітрай пасткі? І раптам у мяне мільганула шчаслівая думка. Я схапіў ручку, памачыў пяро ў чарніла і пачаў упэўнена выводзіць: бацька — Абрам, маці — Равека, бабуля — Сара, дзед — Давыд. І далей: Ісак, Мацільда, Арон, Саламон...

Пасля таго, як я запоўніў усе графы анкеты, сакратар сказаў, што я свабодны і магу ісці. Я з палёгкай уздыхнуў і не марудзячы выйшаў.

Але не прайшоў я і дваццаці крокаў, як паліцэйскі дагнаў мяне і загадаў вярнуцца. Сакратар, прыкідваючыся засмучоным, пачаў прасіць прабачэння, што, маўляў, незнарок разліў чарніла і запэцкаў маю анкету і таму трэба яшчэ раз запоўніць яе.

Я адразу раскусіў паліцэйскую хітрасць. Але я ўжо быў гатовы да яе — перад тым, як пісаць першы раз, я таксама схітрыў: вярнуўся ў думках у Сафію, у свой квартал, наведваўся па чарзе да знаёмых яўрэяў, успамінаў імёны гаспадароў, іх дзяцей і сваякоў і запісаў супраць адпаведных пытанняў.

Зноў, прыплюшчыўшы вочы, у думках апынуўся дома, пяро зноў пачало выводзіць: бацька — Абрам, маці — Равека, бабуля — Сара...

Калі я скончыў, сакратар загадаў пачакаць, пакуль начальнік «падпіша дакумент».

Я і выгляду не паказаў, што здагадваюся пра ўсё. Чакаю.

Прайшла мінута, дзве, тры, пяць мінут, а сакратара ўсё няма. Пачаў непакоіцца — няўжо, думаю, што-небудзь не так? Ужо нашто я быў упэўнены ў сваёй памяці, а нейкі ўнутраны голас шаптаў: «А калі што пераблытаў? Калі, чаго добрага, Абрам стаў Давыдам, а Сара — Равекай?» І чым больш праходзіла часу, тым больш я трывожыўся.

Нарэшце адчыніліся дзверы. Увайшоў сам начальнік і загаварыў ужо зусім іншым тонам:

— Вельмі прашу прабачыць, што давялося доўга вас трымаць тут. Вы, напэўна, здагадаліся, чаму мы дурылі вам галаву гэтымі дзвюма анкетамі. Усё, самі разумееце, з-за камуністаў, якія тайна, з фальшывымі пашпартамі прыязджаюць у Італію, падрываюць у краіне парадак... Вось мы і вымушаны іншы раз турбаваць нават такіх шаноўных грамадзян-гандляроў, як вы. Хочацца верыць, што вы разумееце неабходнасць такіх захадаў, спадзяёмся, што ў вас не застанецца на нас крыўды.

— Вядома, не турбуйцеся,— «паспачуваў» я.— І ў нас, у Грэцыі, паліцыя гэтак жа дбае пра бяспеку дзяржавы, пра тое, каб умацаваць законны дзяржаўны лад...

Задаволены, відаць, маімі словамі, начальнік правёў мяне да выхаду, яшчэ раз папрасіў прабачэння і на развітанне паціснуў мне руку.

Гэты раз мяне ўжо ніхто не даганяў.

Я ўздыхнуў яшчэ раз — з сапраўднай палёгкай — і з першым жа цягніком пакінуў Італію...

Таварыш Дзімітроў памаўчаў, папыхкаў люлькай і стомлена, цяжка дыхаючы, скончыў:

— Вось такая гісторыя з салунскім гандляром... Гэта толькі адна маленькая старонка з майго нелегальнага жыцця.

## КАБ НЕ КІНУЦЬ ЦЕНЮ...

Савецкая вайсковая часць, якая кватаравала ў Сафіі, ператварыла пляц былой духоўнай семінарыі ў парк культуры і адпачынку.

Калі Савецкая Армія пакінула Балгарыю, гэтае месца па ініцыятыве Георгія Дзімітрова вырашана было зрабіць паркам балгара-савецкай дружбы. Распрацавалі праект, паслалі яго Дзімітрову зацвердзіць. Праз некалькі дзён я даведаўся, што ён прагледзеў план, але хоча ўдакладніць сёе-тое на месцы, што ён будзе там праз дваццаць мінут і мне к гэтаму часу таксама трэба быць там.

Я ведаў ужо, як таварыш Дзімітроў любіць дакладнасць. Мала сказаць — злаваў, ён глыбока пакутваў, калі хто-небудзь спазняўся. Аднойчы ў гутарцы на гэтую тэму ён сказаў: «Дакладнасць у такім разе — не проста дысцыплінаванасць, гэта перш за ўсё — павага да людзей».

Вядома, я не хацеў пазніцца і засмучаць яго. На легкавой машыне да былой семінарыі ехаць якіх-небудзь дзесяць мінут, але я папрасіў шафёра завесці машыну неадкладна. У хуткім часе яна завуркатала на двары. Шафёр Пеша, дабрадушны і ўсмешлівы чалавек, ссунуў набакір шапку, усеўся за баранку і жартам, як звычайна, звярнуўся да машыны:

— Ну, мілая, паехалі!

Пакуль мы ехалі па роўных гарадскіх вуліцах, усё было добра. А на крутым пад'ёме шашы, што вяла да семінарыі, машына пачала чхаць, страляць і... нарэшце стала. Пеша схапіў завадную ручку, пачаў круціць з усяе сілы — раз крутануў, два, пяць, дзесяць... Матор маўчаў. Пот цурком пацёк па твары хлопца. Ён кінуў ручку і палез пад капот. А час ляцеў.

— Ну дык, што, Пеша, паедзем мы, нарэшце, ці не?

— Зараз, зараз...— яшчэ з нейкай надзеяй адказваў шафёр.

Прайшло яшчэ колькі мінут...

Разгублены шафёр, брудны, запэцканы, разагнуўся і, выціраючы вехаццю рукі, глядзеў вінавата:

— Падвяла... Што вы хочаце — дабітая трафейная каламажка...

Я не дачуўся канца яго апраўдання — кінуўся бегчы. А бегчы было ўгору. Я адлічваў на хаду мінуты і секунды. Сцінала дыханне. Ногі не слухаліся, увушшу стаяў звон...

І ўсё ж спазніўся...

Яшчэ ад брамы бачу высокую, мажную постаць Георгія Дзімітрова. Ён ужо на ўмоўленым месцы. Задыханы, я падбег і толькі змог сказаць:

— Прашу прабачэння, таварыш Дзімітроў... Машына... трафейная, зношаная і...

Георгій Дзімітроў меў надзвычайную здольнасць адразу ўлаўліваць настрой, душэўны стан чалавека. Ён не прымусіў мяне доўга перажываць, не паківаў дакорна пальцам, як можна было чакаць, а ўсміхнуўся, лагодна сказаў:

— Трафейная, кажаце?.. Зношаная? Дык у музей трэба здаць — яе месца там.

Але праз момант твар яго зрабіўся засяроджаным. Ён уздыхнуў і ўзвысіў голас, быццам гаварыў не мне аднаму, а ўсёй краіне, усяму народу:

— Так, пакуль што даводзіцца ездзіць на зношаных, на трафейных машынах... Шмат у нас цяжкасцей. Трэба вырашыць вялікія, жыццёвыя задачы, каб палепшыць дабрабыт людзей, каб вывесці Балгарыю з яе адсталасці на шырокі шлях сацыялістычнага будаўніцтва. Наш рабочы клас, наш народ знойдзе ў сабе сілы, каб выканаць гэтую гістарычную задачу. Не шмат пройдзе часу, і маленькая краіна Балгарыя будзе развітай індустрыяльнай дзяржавай. Будуць у нас заводы і сваіх легкавых аўтамабіляў...

Ідзём па парку. Я тлумачу, дзе і што павінна быць зроблена, як тут ўсё зменіцца. Таварыш Дзімітроў слухае ўважліва:

— Так, добра, добра.

Ля ўсходняй алеі я звярнуў яго ўвагу на адкрытую сіметрычную пляцоўку:

— Вось тут, на гэтым месцы, прадугледжана ўзвесці высокую, пяціметровую сцяну, на якой будзе выціснена карта Балгарыі. Насупроць паставім п'едэстал, а на ім — Вашу статую ў натуральную велічыню.

Настрой у Георгія Дзімітрова адразу сапсаваўся. Яго бровы нахмурыліся, у вачах бліснула пагроза:

— Вы што, хочаце кінуць цень на Балгарыю?

Гэтае пытанне збіла мяне з панталыку. Пакуль я прыдумваў, што адказаць, Георгій Дзімітроў сказаў, як адрэзаў:

— Ніякіх статуй! Не дазваляю! Закрэсліце гэта ў плане!

Гэта было вымаўлена так катэгарычна, што і думкі не магло ўзнікнуць, каб запярэчыць.

Пераклад з балгарскай
Ул. АНІСКОВІЧА.

Рэзідэнцыя Г. Дзімітрова, былы царскі палац у Сафіі.

# ЖЫЦЦЁ—ПОДЗВІГ



Стварэнне кінафільма пра вялікага сына балгарскага народа Георгія Дзімітрова—цяжкая творчая задача. Вось чаму кінематаграфісты працуюць над ім з пачуццём глыбокай адказнасці. Сцэнарый фільма носіць умоўную назву «Абледзянелы мост» і напісаны балгарскім пісьменнікам Любенам Станевым і паэтам Іванам Радоевым. У складаным драматычным плане раскрываецца вобраз Дзімітрова: пераканаўчы і рашучы на Лейпцыгскім працэсе, непрымірымы ў змаганні з фашызмам, чалавечны і мудры ў адносінах з людзьмі, выдатны трыбун міжнароднага камуністычнага руху.

Пастаноўшчык фільма — балгарскі рэжысёр, заслужаны артыст Хрыста Хрыстаў, аператар — Атанас Тасеў. Ролю Георгія Дзімітрова выконвае народны артыст Стэфан Гецаў. Фільм ствараецца ў супрацоўніцтве з ДЭФА-фільмам і «Масфільмам». У ролі Любы Явошавіч здымаецца савецкая артыстка Жана Прахарэнка. У ролі Герынга — славацкі акцёр Вільям Палоні. У фільм уключаны кадры, знятыя ў гістарычнай зале суда ў Лейпцыгу і ў лейпцыгскай турме.

На здымку—кадр з кінафільма пра Георгія Дзімітрова.

АГЕНЦТВА «СОФІЯ-ПРЭС».

З ГІСТОРЫІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ

# Партрэт Кацярыны Слуцкай

Адным з цэнтраў беларускай феадальнай культуры XVI стагоддзя быў Слуцк, сталіца Слуцкага княства, у склад якога ўваходзілі гарады Слуцк, Капыль, Петрыкаў. З канца XIV стагоддзя княствам валодалі князі Алелькавічы, патомкі вялікіх князёў літоўскіх, якія засвоілі беларускую культуру.

У Слуцку мясцовымі майстрамі былі створаны помнікі жывапісу XVI стагоддзя — партрэты слуцкіх князёў. На жаль, не ўсе яны захаваліся да нашага часу. Яшчэ ў пачатку XX стагоддзя ў Слуцку захоўваліся (спачатку ў Троіцкім, потым у Іаана-Багаслоўскім манастыры, пераведзеным з Грозава) партрэты некалькіх князёў Алелькавічаў (у тым ліку ўсіх апошніх з гэтага роду). Фотаздымкі партрэтаў князя Алелька Уладзіміравіча і Юрыя Юр'евіча Алелькавіча былі змешчаны ўпершыню ў кнізе «Белоруссия и Литва. Исторические судьбы северо-западного края. (СПб., 1890)».

У Нацыянальным музеі ў Варшаве пад інвентарным нумарам 128854 знаходзіцца невядомы дагэтуль у Беларусі партрэт слуцкай княгіні Кацярыны, выкананы маслам на палатне. Подпіс пад партрэтам: «Слуцкая Катажына з Тэнчынскіх, нарадзілася каля 1545 г. Нявызначаны польскі мастак 2 паловы XVI ст.». Слуцкая княгіня Кацярына, аб якой ідзе размова, паходзіла з даўняга польскага магнацкага роду графаў Тэнчынскіх, прадстаўнікі якога займалі высокія пасады ў Польшчы.

Партрэт вытрыман у цёмных танах. На партрэце слуцкая княгіня паказана амаль на поўны рост, у раскошным і строгім удовіным адзенні, з вуаллю, крыху спушчанай на твар. Мастак пісаў парадны партрэт княгіні-ўдавы, прадстаўніцы магнацкіх колаў беларускага грамадства. На твары княгіні мастак паказаў не толькі смутак, не толькі рэлігійнасць (аб гэтым сведчаць малітоўна складзеныя рукі), але і гонар, стрыманасць, уладнасць, пыхлівасць. Характэрна паказаны дагледжаныя рукі, тонкія пальцы арыстакраткі.

Карціну ў Нацыянальным музеі ў Варшаве можна датаваць больш дакладна, чым яна датавана цяпер. З біяграфіі жонкі беларускага магната можна даволі дакладна вызначыць час напісання партрэта. Гэта перыяд ад смерці першага мужа да выхаду замуж за другога, г. зн. ад канца 1578 да сярэдзіны 1581 года. Але лацінскі надпіс на самой карціне гаворыць сам за сябе: «Год панскі 1580. Кацярына графіня з Тэнчына божай міласцю княгіня слуцкая свайго ўзросту 35 гадоў».

Праўда, на карціне княгіня Кацярына мае выгляд больш, чым на 35 гадоў. Але трэба заўважыць, што адзенне ўдавы і ўвесь тон смутку партрэта стараць яе. Да таго трэба дадаць, што ў XVI стагоддзі рана выходзілі замуж і рана старыліся. Жаночы век звычайна лічыўся ад 15 да 35 гадоў.

Можна з упэўненасцю сказаць, што партрэт 1580 г. быў выкананы ў Слуцку. Па дакументах відаць, што княгіня ў гэтым годзе не выязджала са Слуцка і займалася справамі кіравання княствам, у той час як малодшыя сыны былі за мяжой, а старэйшы — на вайне. Можна таксама з пэўнай доляй верагоднасці меркаваць, што аўтарам партрэта быў адзін са слуцкіх, беларускіх мастакоў, паколькі пры двары слуцкіх князёў ужо склалася традыцыя маляваць партрэты князёў у рэалістычным стылі.



**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ,**
кандыдат гістарычных навук.

КУТОК КАЛЕКЦЫЯНЕРА

# ЛЁС УКРАДЗЕНЫХ СКАРБАЎ

Неймаверныя пакуты прынёс чалавецтву фашызм. Людзі ніколі не забудуць Асвенціма і Бухенвальд, Дахау і Маўтхаўзена, лёсу беларускай Хатыні, чэшскай Лідзіцэ, французскага Арадура. Ніколі людзі не забудуць і таго, што ў час вайны загінулі сотні тысяч шэдэўраў сусветнага мастацтва. Адны з іх гітлераўцамі знішчаны, другія пашкоджаны, трэція ўкрадзены. Некаторыя з украдзеных скарбаў не знойдзены да гэтага часу.

Перад вамі фатаграфія паштовай маркі Польскай Народнай Рэспублікі, на якой рэпрадуцыраваны адзін з цудоўнейшых твораў Леанарда да Вінчы «Дама з гарнастаем». Гэтая карціна створана вялікім майстрам каля 1483 года. Палатно належыць музею Чартарыйскіх у Кракаве. На марцы — маладая жанчына прыціскае да сябе звярка, пяшчотна гладзіць яго тонкімі пальцамі. Цёмныя вочы глядзяць у далячынь. Доўгія чорныя каралі ахопліваюць тонкую шыю. Усю сілу свайго таленту, сваё уменне і натхненне ўклаў вялікі італьянец у гэтае палатно, якое адлюстравала вобраз каханкі міланскага герцага Ладовіка семнаццацігадовай Чычэліі Галерані.




У карціны трагічны лёс. У 1939 годзе гітлераўцы, якія акупіравалі старажытную польскую сталіцу, пачалі рабаваць музеі Кракава. «Даму з гарнастаем» разам з многімі іншымі творамі гітлераўцы вывезлі ў Германію. Усяго з музея Чартарыйскіх было ўкрадзена 843 рэчы, у тым ліку 15 палотнаў вялікіх майстроў мінулага. Большасць карцін, вывезеных з музея па загадзе генерал-губернатара Франка, удалося знайсці і вярнуць, а пра многія і да гэтага часу нічога невядома. Леанардаўская «Дама з гарнастаем» пасля доўгіх і небяспечных падарожжаў таксама была вернута ў Польшчу. Карціну пасля вайны выявіў на віле Франка ў Баварыі польскі прафесар Эстрэйхер. Там жа была знойдзена рэмбрантаўская «Навальніца» і іншыя каштоўныя творы мастацтва з кракаўскіх музеяў. На Нюрнбергскім працэсе было ўстаноўлена, што яшчэ ў канцы 1939 года Франк узяў «Даму з гарнастаем» з асобага фонду фюрэра для сваёй летняй рэзідэнцыі — замка Крашчавіцы. Каб абысці асобыя ўказанні Гітлера аб каштоўных рэчах мастацтва, Франк прыпісаў гэту карціну да твораў... другога класа. У якіх тайніках знаходзілася палатно да 1945 года, высветліць не ўдалося. Але ў час уцёкаў з Браслау ў пачатку 1945 года Франк захапіў карціну з сабой, а потым яна трапіла ў Баварыю. Сёння шэдэўр Леанарда да Вінчы зноў у Кракаўскім музеі.

У гэтай жа серыі, выдадзенай у 1956 годзе, ёсць яшчэ адна марка, якая можа расказаць аб такім жа трагічным лёсе другога помніка мастацтва, што належыць польскаму народу. На паштовым знаку — мадонна з алтара Віта Ствоша, вядомага разьбяра па дрэве, які жыў у XV стагоддзі. Яшчэ перад нападам на Польшчу Гейдрых выдаў асобы загад аб канфіскацыі алтара пасля ўзяцця Кракава і вывазе яго ў Германію. Работнікі кракаўскіх музеяў вырашылі схаваць алтар. Ён быў разабраны і ўпакаваны ў скрынкі на 23 дзень вайны. Гэтыя скрынкі былі тайна перавезены ў падвалы Сандамірскага сабора і там схаваны. Аднак знайшоўся здраднік, які паказаў фашыстам тайнік. У кастрычніку 1939 года скрынкі былі дастаўлены ў Берлін, а потым у 1940 годзе іх перавезлі ў Нюрнберг. Алтар вырашылі ўстанавіць у царкве святога Ларэнца... пасля вайны.

У падвалах царквы скрынкі праляжалі да краху «тысячагадовага рэйху». У 1946 годзе каштоўны твор быў вернуты ў Польшчу. Дзве тысячы фрагментаў алтара былі, нарэшце, сабраны ў адным месцы. У 1951 годзе частка шэдэўра была рэстаўрыравана і выстаўлена ў кракаўскім Вавелі. Толькі ў 1957 годзе былі завершаны рэстаўрацыйныя работы. Польскія рэстаўратары вярнулі пашкоджанаму алтару былую красу і ён заняў сваё ранейшае месца ў Марыяцкім касцёле Кракава.

**Л. КОЛАСАЎ.**

*Па той бок*

Ілона РЭГНЕР

# НАКОЛЬКІ ДЗІКІМ БЫЎ ДЗІКІ ЗАХАД?

Беспадобныя мужчыны, прыгожыя рыцары прэрыі, зусім не бязгрэшныя, але, тым не менш, вельмі прывабныя — такімі былі «героі Дзікага Захаду» для тых, хто даверліва ўспрымаў шматлікія шырпатрэбныя фільмы і коміксы амерыканскіх аўтараў. Але ці быў «Дзікі Захад» такім, якім яго, пачынаючы з 50-х гадоў, паказваюць галівудскія «фабрыкі летуценняў», і якім ён выглядае на экранах заходняга тэлебачання?

Святло на гэта пралівае не хто іншы, як былы аўтар вестэрнаў Гейнц І. Штамель. Ён сабраў мноства дадзеных аб «класічным часе Дзікага Захаду», які ахоплівае перыяд пасля заканчэння паўночнаамерыканскай грамадзянскай вайны — з 1865 па 1890 год. Даследаванні Штамеля знайшлі сваё адлюстраванне на 472-х старонках манаграфіі пад назвай «Каўбоі і іх свет», якая выйшла нядаўна ў нью-йоркскім выдавецтве «Стэйн і Дэй».

Гістарычныя дакументы паказваюць, што большасць кніжак аб Дзікім Захадзе і пастаўленыя па іх масавыя серыі амерыканскіх вестэрнаў — гэта, як даказана, плён фантазіі.

Большасць жыхароў Захаду складалі сельскагаспадарчыя рабочыя, празваныя за асноўны род заняткаў каўбоямі, уладальнікі буйных гаспадарак (фермеры), якія жылі за іх кошт, і яшчэ гандляры. Каўбоі былі заняты цяжкай працай пастухоў. Калі б нехта паспрабаваў іх пераканаць, што з пятнаццаці метраў з кольта можна прадзіравіць 25-доларавую паперку, яны б яго пабілі. Каўбоі насілі на паясах недарэчныя кольты, што зараджаліся з дула. Гэтыя кольты толькі выпадкова пападалі ў цэль. Тым не менш амаль усе вестэрны не перастаюць хваліць амаль «легендарную» меткасць героя. Вядомы Біл Хайкок, напрыклад, быццам бы з 200 ярдаў усаджваў дзесяць куляў у літару «О» ў шыльдзе «Салон». Старадаўнія рэвальверы, якія ўжываліся да 80-х гадоў, пападалі ў цэль толькі з 20—30 метраў.

Сведкі паведамляюць аб многіх дуэлях, якія працягваліся больш як паўгадзіны, перш чым адзін з праціўнікаў не быў забіты. Ні ў якой меры не адпавядае сапраўднасці і ўяўленне аб тым, што каўбой у большасці выпадкаў яшчэ ў юныя гады «атрымліваў у лоб свінец». Нягледзячы на ўсе небяспечныя сутыкненні з выкрадальнікамі скаціны, яны дажывалі да больш старога ўзросту.

Сацыял-дэмакратычны «Форвертс», гаворачы аб серыях фільма аб «Дзікім Захадзе», якія ў сучасны момант ідуць па тэлебачанні ФРГ, піша: «Усе гэтыя бравыя героі вестэрнаў з недарэчных тэлефільмаў адлюстроўваюць «час піянераў» у Штатах зусім не такім, якім ён быў на самай справе».

Буржуазная літаратура, кіно і тэлебачанне стварылі аб Дзікім Захадзе суцэльныя легенды. Толькі ў нямногіх з іх ёсць актуальна-палітычны аспект. Антыфашысцкі заходнегерманскі штотыднёвік «Дытаг» піша саркастычна: «У гэтых, багатых зверствамі і сентыментальнасцю гісторыях усё аказваецца на сваіх месцах. Калі не шэрыф паўзнаўляе справядлівасць, паколькі ён сам пакрывае бандытаў, то гэта мужны каўбой, які дэманструе свету запалоханых абывацеляў, якім павінен быць сапраўдны мужчына. Паказ карцін «бліскучага» мінулага спалучаецца з фашысцкімі тэндэнцыямі».

Жыццё, насычанае гвалтам,— гэта сённяшнія будні Злучаных Штатаў. Сотні мільёнаў розных відаў зброі знаходзяцца ў ЗША ў прыватным ужытку. Пустыя ўвечары вуліцы Вашынгтона: выйсці за дзверы было б больш небяспечна, чым праехаць вярхом цераз прэрыю больш як сто гадоў назад, калі Захад яшчэ быў «дзікі». Аматары кольтаў накіроўваюць іх супраць неграў і камуністаў, ведучы грамадзянскую вайну ў мэтах абароны сваіх прывілеяў. Дзяржава, якая дапаўняе знешнюю агрэсіўнасць агрэсіўнасцю ўнутранай, стварае неабходныя ўмовы для смяротнага ўнутранага антаганізму.

Але тэлебачанне ФРГ маршыруе ў тым жа кірунку. У 1971 годзе яно паказала шматсерыйны вестэрн «Ланцэр», «гісторыю адной сям'і», якая жыла на ранчо ў 70-я гады мінулага стагоддзя, у бурныя часы пасля заканчэння грамадзянскай вайны, як паведамлялася ў рэкламных выпусках. Фабула «Ланцэра» трывіяльная і прымітыўная, як і ў іншым любым вестэрне: 25 гадоў запар уладальнік буйнага памесця Ланцэр змагаецца за сваё ранчо, за ворыўныя землі, лясы, азёры. Яму належаць 100 тысяч моргенаў зямлі. Гэтыя месцы тэрарызуе адна жахлівая банда. Суседзі і сябры даўно з гэтым змірыліся. І цяпер Ланцэр дрыжыць за сваё памесце. На гэтай падставе ўзнікае нямала прыгод. Больш істотна тое, што робіцца намёк — прыватнакапіталістычнай уласнасці пагражае банда тэрарыстаў. Такім чынам, серыя «Ланцэр» служыць яскравым прыкладам таго, як хлуслівая гісторыя з мінулага амерыканскага «Дзікага Захаду» можа рэалізаваць вельмі актуальныя тэндэнцыі ў духу пануючай капіталістычнай уласніцкай маралі.

Пераклаў з нямецкай
В. МЯГКОЎ.

# НЕПАЖАДАНЫЯ ГОСЦІ

Што рабіць з хіпі? Гэта пытанне набыло зараз на Цэйлоне асаблівую вастрыню.

А адбылося наступнае. У апошні час у радзе еўрапейскіх краін на хіпі наладжваюць паліцэйскія аблавы, у некаторыя гарады іх наогул не пускаюць. І вось яны патокам хлынулі ў Азію: у Індыю, Сінгапур, Інданезію і, канечне, на Цэйлон, у «зямны рай», як называюць востраў у турысцкіх праспектах.

Сярод джунгляў у цэнтры вострава знаходзіцца старажытная сталіца Паланарува. Там захаваліся руіны палацаў і будзійскіх храмаў. Як святыню, берагуць на Цэйлоне гэтыя помнікі багатай сінгальскай культуры. Яны строга ахоўваюцца дзяржавай. Хіпі прабраліся і туды. Аднойчы я бачыў, як паліцэйскія вялі групу юнакоў і дзяўчат.

— Сам не разумею, чаго ім ад нас трэба,— сказаў адзін з хлапцоў.— Вырашылі мы пераначаваць у нейкай руіне. Прабраліся туды міма вартаўнікоў, а легчы, як трэба, нельга, таму што ўсюды тырчаць каменныя слупы. Толькі сабраліся зваліць некалькі, а тут з'явіліся паліцэйскія.

Як мне растлумачыў паліцэйскі, хіпі гаварыў аб славутым палацы караля Паракрамбаху першага, з кіраваннем якога звязаны перыяд росквіту Паланарувы. «Каменнымі слупамі» ён палічыў рэшткі ўпрыгожаных ляпнымі фігуркамі калон каралеўскага палаца.

Сярод хіпі нямала наркаманаў. Некаторыя візіцёры з ЗША і Еўропы аказаліся сапраўднымі злачынцамі.

Потым было ўстаноўлена, што турыстка з ФРГ хворая воспай. Хутка яшчэ двое хіпі з Заходняй Германіі былі адпраўлены ў шпіталь.

Тут ужо цярпенне цэйлонцаў перапоўнілася. Цэйлонскія газеты застракацелі загалоўкамі: «Няхай хіпі выбіраюцца адсюль», «Не пускайце іх у нашу краіну». Хіпі аб'яўлена вайна, у якой ахвярамі часам рабіліся маладыя людзі, якія не мелі да іх ніякага дачынення. У газетах паведамілі пра выпадак, калі прадавец магазіна зачыніў дзверы перад маладой парай, прапанаваўшы ім спачатку пастрыгчыся, а ўжо потым што-небудзь купляць.

**М. ОЗЕРАЎ,**
карэспандэнт ТАСС.

Генадзь ЗОТАЎ

## СТАЛЫ

**Атрымаў пасаду Стась**
**І уткнуўся у паперкі.**
**Стол ягоны — блісь ды ясь,**
**Адлівае, бы люстэрка.**

**— Асабліва ж не дуры,**
**Толькі праўду гавары,**
**Кіраўнічы у мяне**
**Выгляд зараз або не!**

**Стол прамовіў у адказ:**
**— Выглядаеш добра, Стась,**
**Ды на базе ёсць, павер,**
**Мэбля лепшая цяпер.**

**Паімчаўся Стась на базу,**
**Гарнітур змяніў адразу.**
**Быў цяпер у Стася новы**
**Стол — начальніцкі, дубовы.**

**Ды і гэты неяк раз**
**Балбатнуў яму ў адказ,**
**Што ў сістэме гандальзбыту**
**Шык-мадэрн сталы, нібыта...**

**Па майстэрнях Стась гайсае,**
**Мэблю лепшую шукае...**
**...І сказалі ўрэшце:**
**— Стась,**
**Клопат твой каму патрэбны!**
**Са сваёй пасады злазь,**
**Бо сядзіш ты дзеля мэблі.**

Марыуш КВЯТКОЎСКІ.

ГУМАРЭСКА




Пан Куска соўгаўся і соўгаўся па крэсле — яму, відаць, не давала спакою нейкая думка. І раптам, як самазабойца, які ўрэшце наважыўся боўтнуць у ваду, ён звярнуўся да свайго начальніка пана Банашака.

— Даруйце, але ў мяне вельмі далікатная справа. Я даўно ўжо хачу ў вас запытаць...

Пан Банашак зычліва ўсміхнуўся.

— Калі ласка, не саромцеся...

— Скажыце, будзьце ласкавы, у якой установе мы працуем?

— Як?! — узарваўся пан Банашак. — Пан проста здзекавацца надумаў з мяне!

— Што вы! Я і ў думках не адважыўся б... — горача запэўніў пан Куска. — Але ж я напраўду не ведаю.

— Не ведаеце, дзе працуеце?

— Не ведаю. От так ужо атрымалася... — зачырванеўся ад сораму пан Куска.

— А цікава, колькі ж гэта гадкоў вы тут ужо сядзіце?

— Хутка чатыры.

— І дасюль не ведаеце?

А як вы да нас трапілі?

— Па рэкамендацыі.

— Ну, той, хто рэкамендаваў, то мог бы ўжо сказаць, куды вас рэкамендуе.

— Ведаеце, не сказаў. Проста напісаў запіску да пана дырэктара — і ўсё.

— І дырэктар таксама вам нічога не сказаў?

— Як гэта нічога! Сказаў, што буду атрымліваць зарплату плюс прэмію.

— Гм... — зазначыў пан Банашак. — І з таго часу вы ні разу не пацікавіліся, дзе працуеце? Хоць бы не паленаваліся, ды прачыталі шыльдачку каля ўваходу.

Пан Куска шчыра здзівіўся.

— Каля ўваходу столькі розных таблічак! Як я мог здагадацца, якая з іх наша?

— Можа быць і так, — згадзіўся пан Банашак.— Ну што ж, тады скажу: мы працуем у Канторы палівання вуліц.

— Вунь яно што! — радасна выгукнуў пан Куска. — Нарэшце разабраліся!.. Хаця не, чакайце, чакайце... Мне здаецца, што я бачыў шыльдачку Канторы палівання вуліц у зусім іншым месцы.

— Ды што вы чаўпеце! — выгукнуў пан Банашак, ускочыўшы з крэсла. — Не можа гэтага быць!

— Каб я з гэтага месца не сышоў! Бачыў шыльду вашай канторы кіламетраў за чатыры адсюль.

Пан Банашак, збялеўшы, апусціўся на крэсла.

— Цырк дый годзе! Няўжо нашу кантору кудысьці перавялі?

Пераклаў з польскай П. МІСЬКО.





Мал. М. КАРАБКО.

## З НАРОДНАГА

□ *Грэх у мех, калом па мяху — няма граху.*
□ *Каб табе на старасць кот яйка знёс!*
□ *Каб табе пярун пяты пашчапаў!*

Запісаў І. ЛЕПЕШАЎ.

Васіль ГАПАНОВІЧ

## ЦІ Ж СНІЎ ПРА ГЭТА ЁН КАЛІ?!

**Таўкач зярняты б'е, шалупіць,**
**З-за вуха перыць, з-за пляча...**
**Яны ж на дол лятуць са ступы,**
**Каб уцячы ад таўкача.**
**Прайшло гадзіны дзве з паловай,**
**І што б падумаць вы маглі!**
**Разбіўся сам таўкач дубовы,**
**Ці ж сніў пра гэта ён калі!!**

Уладзімір ІСКРЫК

## ГЭТЫМАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК «ЛІМа»

Як, пэўна, добра ведаюць нашы чытачы, «Литературная газета» рэгулярна адводзіць немалое месца для архінавуковага «Этымалагічнага слоўніка». Яе пачын натхніў і нашых мовазнаўцаў ад гумару. Адзін з іх—Уладзімір Іскрык—прапанаваў рэдакцыі свае матэрыялы для падобнага слоўніка, якія з'яўляюцца не запазычаннем з «Литгазеты» або сінанімічных скарбонак М. Клышкі, а грунтоўным вынікам шматхвілінных учорадзённых пошукаў. «Гэтымалогія» — слова нярускае, як растлумачыў нам даследчык, і складаецца з двух кавалкаў: «гэты» і «малогія» (ад «малоць» — растлумачваць). Слоўнік ахоплівае розныя сферы шматбаковага сённяшняга жыцця: спорт, медыцыну, сельскую гаспадарку, літаратуразнаўства, і ёсць усе падставы меркаваць, што ён будзе рэзкай процілегласцю ўсялякаму лёгкаважкаму трэсіву на тую ж тэму.

□

*Абармот—бармэн у матэлі.*
*Акуляры—кавалеры акул.*
*Амбар (жарг.)—забойца.*

*Басяк (муз.)—оперны спявак, які валодае басам.*

*Брыво (тэхн.)—электрабрытва.*

*Вазон—таксіст.*
*Варатар—тара для варанай прадукцыі.*
*Вусень—чалавек з вусамі.*

*Гадзіннік — памяшканне для змей.*
*Галёканне—размова па тэлефоне.*

*Дармаед (транспартн.) —безбілетнік, «заяц».*

*Журавель — наведвальнік рэстарана «Журавінка».*

*Звон (архітэкт.) — выгляд звонку.*
*Зубр — зубны ўрач, стаматолаг.*

*Кажан — дыктар, прамоўца.*
*Карункі — прысуды.*
*Кладка — раздатчыца ў сталоўцы.*
*Кроква — шпацыр.*
*Крытык — асоба, якая крые.*
*Кульба (спарт.) — гімнастыка.*

*Логава (спарт.) — перамога ў класічнай барацьбе.*
*Лопух — шар, які лопнуў.*
*Людовік — мізэрны чалавечак.*
*Ляпсус — удар па шчацэ.*

*Маладзік — дзікі парсючок.*
*Малодзіва — вундэркінд.*
*Мамант — пястун, мамчын сынок.*

*Наморднік — сіняк, нанесены хуліганам.*
*Наручнікі (спарт.) — стойкі на руках.*
*Нябога— атэістка.*

*Палістырол — паліцэйскі, які спецыялізуецца на крадзяжах.*
*Папліска — балгарскі каньяк па новай цане.*
*Парасон — час сну.*
*Паркан — штык.*
*Пацалункі — пацуковыя норы.*
*Плешчаніцы — апладысменты.*
*Пярун (заал.) — птушаня, якое ўвабралася ў пер'е.*

*Рагач — повар, спецыяліст па рагу.*
*Рамантык — апошні клічнік у рамане.*

*Самагонка — энтузіязм.*
*Скалазуб — каменедрабілка.*
*Страус — дэгустатар страў.*
*Ступа — спартыўная хадзьба.*
*Ступня — кар'ера.*
*Супастат — памыі.*

*Турботы — турысцкі абутак.*

*Хобат (англ.) — чалавек з якім-небудзь захапленнем (хобі).*

*Цыркуль — артыст цырка.*

*Шакаладка (заал.) — самка шакала.*

*Ягуар (фалькл.) — муж бабы Ягі.*

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.

Галоўны рэдактар Л. Я. ПРОКША.



Індэкс 63856 АТ 01802